Бельская „тройка”➔3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

Валакальнікі ➔ 9



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 17 (2919) Год LVII | Беласток, 22 красавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Фота і тэкст
ГАННЫ КАНДРАЦЮК

# Праменьчыкі велікоднай радасці

**„Як хрысціянін я павінен аддаць частку сябе самога іншым людзям”, — сцвярджае без усякага пафасу Славамір Назарук. Раднага горада Беластока лаўлю па тэлефоне дзесьці між Беластокам і Тапалянамі. Па дарозе ён наведае яшчэ Міхалова, каб асабіста перадаць святочныя пакеты з харчамі і ласункамі. Наша размова датычыць якраз харытатыўнай акцыі, якой пакіраваў Славамір Назарук. Разам з беластоцкай моладдзю ад Брацтва св. Трох Іерархаў сабралі 170 пакетаў з прадуктамі і 120 з ласункамі пад Вялікдзень.**

— Нам хацелася падтрымаць тыя састарэлыя парафіі, дзе засталіся самотныя бабулькі і дзяды, дзе часта з ніякага боку няма дапамогі, — адзначае радны.

У асноўным гэта Гарадоцкі дэканат — парафіі ў Юраўлянах, Мастаўлянах, Крушынянах, Міхалове, Тапалянах. Частка прадуктаў трапіла да людзей з Беластока.

— Нашай дапамогай пакарысталіся не толькі адны праваслаўныя, — Славамір Назарук прыводзіць прыклад парафіі ў Мастаўлянах. Святочныя пакеты былі раздадзены таксама мясцовым католікам, якім неабходна было дапамагчы.

— Калі людзі прыходзяць да мяне за дапамогай, я не пытаю якой яны канфесіі, а толькі як ім дапамагчы, — кажа радны.

Менавіта сустрэчы з людзьмі ў патрэбе далі штуршок сарганізаваць велікодную акцыю дапамогі.

— У час аднаго дзяжурства прыйшла да мяне жанчына, якая самотна даглядае 37-гадовага сына-інваліда. Іх сямейны бюджэт складае ўсяго тысячу пяцьсот злотых, з якіх трэба яшчэ купіць лякарствы. У такіх складаных умовах, дзе ўсё разбіваецца аб бездапаможнасць, цяжка думаць яшчэ пра святкаванне. І чалавек не мае спакою, думае як ім дапамагчы, прынесці праменьчык радасці на свята...

Ідэя дасвяточнай акцыі дапамогі патрабуючым ажыццяўляецца праваслаўнымі арганізацыямі ўжо дзесяць гадоў, найперш Брацтвам праваслаўнай моладзі і асяродкам „Элеос”. Аднак да гэтай пары дзеянні засяроджваліся вакол Каляд.

— А Вялікдзень гэта ж самае вялікае свята, — адзначае мой субяседнік, — таму мы рашыліся нешта зрабіць. Больш за трыццаць валанцёраў — моладзь сярэдніх школ і студэнты — збірала прадукты ў сямі беластоцкіх супермаркетах сеткі „Społem”. У раздачы пакетаў дапамагалі святары ў парафіях і прыватныя асобы. Арганізатары акцыі падумалі не толькі пра старэчаў. Яны прыдбалі асобныя 120 пакетаў з ласункамі для дзяцей.

Велікодным праменьчыкам радасці для жыхароў беластоцкага мікрараёна Бацечкі паказаўся білборд з надпісам „Христос Воскресе!” Убачыўшы гэтае цуда, я сама ледзь не пералажгналася. Здавалася б, прамоцыя добрай ідэі — звычайная справа. Аднак не ў Беластоку. Тут праваслаўе ўсё яшчэ мае напаўпадпольны характар. Карацей, мая радасць была наклікана разуменнем моманту: я першы раз у Польшчы ўбачыла падобны стэнд.

— Білборд будзе вісець месяц часу, — кажа айцец Марк Ваўранюк, настаяцель новазаснаванай парафіі апостала Іаана Багаслова. Разам з велікодным прывітаннем пададзены адрас сайта парафіі і мініяцюрны макет будучай царквы (пакуль вернікі моляцца ў часовай, драўлянай царкоўцы, якая раней служыла вернікам у мікраpаёне Новае Места).

Білборд пастаўлены дзякуючы фундатару — парафіяніну, які пажадаў застацца ананімным.

„Як жыхары Беластока хочам існаваць у прасторы горада”, — чытаем на сайце царквы св. Іаана Багаслова. Сам айцец Марк кажа, што важна, каб людзі, якія будуць праходзіць каля царквы, бачылі і разумелі, што праваслаўныя жыхары горада таксама святкуюць Вялікдзень.

У гэтым месцы мне хочацца напісаць, што размаўлялі мы з настаяцелем на натуральнай, прыгожай беларушчыне.

Нашыя субяседнікі павіншавалі таксама чытачоў і калектыў „Нівы”, жадаючы ім Божай дапамогі, добрага здароўя і вытрымкі ў праўдзе.

Хрыстос Уваскрос!




СЛУХАЙ СВАЁ!
БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ
РАЦЫЯ
WWW.RACYJA.COM
Дуброва-Беластоцкая, Саколка, Гарадок, Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка, Чаромха, Сямятычы
98,1 FM
Высокае, Бераставіца, Свіслач, Брузгі, Гародня, Ваўкавыск, Шчучын, Масты, Лунна
ПЕРШАЕ ТРАНСГРАНІЧНАЕ БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ
РАЦЫЯ
Янаў-Падляшскі, Белая-Падляшская, Тарэспаль, Кодань
99,2 FM
Брэст, Кобрын, Жабінка, Маларыта
Białoruskie Radio Racja
ul. Ciepła 1/7
15-472 Białystok
e-mail: info@racyja.com
tel. (+48) 85 676 80 20

# Уваскрашэнне Беларусі



*У праваслаўную Вербную нядзелю пайшоў я ў храм. Людзі сунуліся туды зранку. Ужо першыя гарадскія аўтобусы былі запоўненыя святочна апранутымі людзьмі. У кожнага вербачкі, упрыгожаныя рознымі каляровымі прыдумкамі, на тварах урачыстая задумлівасць і радасць. Ва ўсім адчуваўся святочны настрой. Тым больш, што ў гэтым годзе праваслаўная Вербніца супала з каталіцкай Пасхай, і католікі таксама ва ўзвышаным настроі накіроўваліся на святочную службу.*

*Вось зусім нядаўна, сустракаючы Новы год, дзівіўся я таму, што ў параўнанні з былымі савецкімі часамі кудысьці прапаў святочны настрой у навагоднюю ноч. Не такі ён ужо цяпер феерверчаты і бенгальскавогненны, якім быў калісьці, і якім яго хочуць замарозіць на вякі вечныя сённяшнія беларускія ўлады. Падобна як імкнуцца замарозіць і захаваць савецкі калгасны светагляд сацыялістычнага чалавека.*

*І не толькі беларускія ўлады. Прыкладам у Расеі, афіцыйнай беларускай сяброўцы і суседцы па СНД, агульнай мытнай прасторы, саюзнай дзяржаве і яшчэ шмат па чым незразумелым, шалёныя грошы выкідваюцца настальгуючымі па савецкіх часах дзяржаўнымі чыноўнікамі на феерверкі, канцэрты, святочныя праграмы і розныя публічныя масавыя мерапрыемствы ў навагоднія святы. Іхняя ўлада нават зрабіла дзесяцідзённыя вакацыі для ўсяго насельніцтва шостай часткі сушы на Новы год і пасля яго. А грамадзяне акрамя штогадовага прагляду фільма „Іронія лёсу або З лёгкай парай" аніяк не рэагуюць на высілкі ўлад. Тыя выкідваюць грошы на вецер, абы захаваць савецкія традыцыі, ды толькі толку мала. Усё мяняецца, і кола часу спыніць нельга.*

*Святочны настрой пакрысе перамясціўся з афіцыйна прапагандуемых савецкімі свят да старых добрых хрысціянскіх традыцый. І хоць у той жа Расеі дзесяць дзён навагодніх вакацый на гулянкі і п'янкі далі акурат перад праваслаўнымі Калядамі, у перыяд самага строгага посту, як насмешку над тысячагадовай хрысціянскай гісторыяй Расіі, людзі пра Каляды не забыліся.*

*Што ўжо казаць пра значна больш кансерватыўную і еўрапейскую Беларусь. Тут заўсёды можна было пачуць, як знаёмыя на вуліцы пытаюцца адзін у аднаго ці трымаюць яны пост і ці трымаюцца посту іх дзеці. Пытаюцца пра тое, дзе вырашылі сустракаць у гэтым годзе Вялікдзень і ў якім коле. І няма ні ў кага сумненняў, што адсвяткаваць гэты дзень трэба належным чынам, годна і прыстойна.*

*І вось тут найбольш яскрава адчуваецца той разрыў існуючай улады і народа. Улада забрала ў людзей выходныя на другі дзень Пасхі. Тыя выходныя, якія былі абвешчаныя чырвонымі днямі ў календары яшчэ на пачатку дзевяностых гадоў, калі Беларусь, вырваўшыся з бязлітасных лап Савецкага Саюза, аднавіла сваю незалежнасць. Але Пасха ў жыцці людзей заняла сваё належнае месца. Сённяшняя ўлада зноў, як у СССР, гвалтам гоніць людзей на святкаванне Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі або Першага мая, якія афіцыйна аб'яўленыя дзяржаўнымі святамі. А працоўныя з большай ахвотай, па жаданню сэрца ідуць на Вербніцу. І не трэба іх туды зганяць як статак. А для многіх яшчэ справай абавязку з'яўляецца павіншаваць паштоўкай з гэтым вялікім святам палітвязняў. Вось такія сённяшнія рэаліі.*

*А ў храме гучыць пропаведзь святара. Ён распавядае пра гісторыю святкавання Вербніцы. Гаворыць пра неабходнасць змагання са злом. Расказвае пра Вечнасць і пра сэнс зямнога жыцця. Людзі падымаюць угору вербачкі. Многа-многа ўпрыгожаных і рознакаляровых. Святар асвячае іх. Некаторыя перабягаюць наперад, каб яшчэ раз падставіць свае вербачкі пад святую ваду. А прыйшоўшы дахаты, па старой беларускай звычцы „палупцуюць" імі тых, хто не быў у царкве.*

*А ў хаце ўжо пахне цыбульным лупіннем, якое даўно нарыхтавалі, каб пафарбаваць яйкі. Не, не зацягнуць зноў Беларусь ні ў СССР, ні ў Расею. А калі добра прааналізаваць, то яна там і не была. Яна заўсёды ішла шляхам свайго адраджэння. Толькі вось на пэўных этапах ёй чынілі і чыняць перашкоды, якія стрымліваюць гэты працэс. Але не ў стане яго спыніць. І як сказала старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла: „Хрыстос Уваскрос і Беларусь уваскрэсне".*

*Хрыстос Уваскрос!!!*

**Віктар САЗОНАЎ**

# Бутэлькі

*Сёння, калі палітычныя шалі ў Польшчы паказваюць не так выразную дамінацыю правіцы, як празмерную слабасць лявіцы, варта прыгадаць, хто прадстаўляе гэты „горшы" бок: неадназначны ідэалагічна мільянер Януш Палікот і палітычна паношаны Лешак Мілер. Агулам гэта індывіды непразрыстыя і, калі не цынічныя, дык балюча прагматычныя. А такое стаўленне датычыць таксама правага боку. Што можна сказаць аб Яраславе Качынскім, аб Дональдзе Туску? Як вядома, прагматызм паводле класічнага вызначэння лічыць сапраўдным тое, што праверыцца ў дзеянні. Калі апраўдваецца палітычная балбатня, то няважна, якая палітычная шыльда. Важныя затое ўласныя, эгаістычныя мэты. Або партыйныя мэты, якія перакладваюцца ж на тыя прыватныя. А грамадзяне, грамадства? Гэта выбарчы гной, у які раз на чатыры гады трэба акунуцца. Толькі што ён становіцца залатым руном. У той час палітычная гайня ганяецца па краіне ў фуфайках і чобатах за галасамі выбарчай сімпатыі. Пасля будуць паказвацца перад тэлекамерамі ў касцюмах ад Армані. Гэта факт. Фактам таксама з'яўляецца тое, што ўзровень палітычнай культуры апынуўся ў глыбокай дэпрэсіі. Таму палітыку штораз часцей падтопліваюць звычайнае хамства і чалавечая пасрэднасці. На гэтым фоне постаць Станіслава Дзібуа, дзеяча Польскай сацыялістычнай партыі (ПСП) з часу ІІ Рэчы Паспалітай — крыштальна чыстая. А крышталям належыцца найвышэйшая паліца. Бо і з крохкай яны матэрыі.*

*У час ліхаманкавых падзей пасля майскага перавароту Пілсудскага ў 1926 годзе дваццаціпяцігадовы Дзібуа часцей бываў у Беластоцкім павеце, чым у сваёй варшаўскай кватэры. Лявіца спадзявалася тады хуткага правядзення выбараў у парламент. Прыняў гэта сабе тады блізка да сэрца малады пан Станіслаў. У той час удзельнічаў ён у больш за сотню мітынгаў, сходаў і чытанняў у прынамсі 35 мясцовасцях. Апладысментамі прымалі яго Гайнаўка, Пасынкі, Масева, Белавежа і Ласінка. У выбарах у парламент у 1928 годзе якраз у гэтых мясцовасцях ПСП здабыла найбольшы адсотак галасоў — больш за 70-працэнтны пры 12 працэнтах у сярэднім у краіне. Дзякуючы беластоцкім выбарцам Дзібуа здабыў дэпутацкі мандат. Дарэчы, адважна служыў свайму электарату. Рашуча супрацьіўляўся абмежаванню сацыяльных здабыткаў і дэмакратыі. Крытыкаваў санацыйныя праекты змены канстытуцыі. Адзначаў неабходнасць завастрэння апазіцыі ў адносінах да ўрада. На адным з мітынгаў у Гайнаўцы пагражаў нават адыходам ад пасіўнага супраціву рабочага класа і пераходам да дзеянняў. Гэтыя словы, запісаныя паліцэйскім інфарматарам, сталі падставай для арыштавання яго і ў выніку асуджэння ў славутым брэсцкім працэсе, у якім Пілсудскі распраўляўся са сваімі палітычнымі ворагамі.*

*Станіслаў Дзібуа змагаўся не толькі за сацыяльную справядлівасць, але і адважна ставіў пытанні патрыятызму. Будучы шчырым польскім патрыётам, не зачыняўся ў нярэдка шавіністычнай у тыя часы польскасці. Гаварыў, што права на дбанне аб мову продкаў, на развіццё нацыянальнай культуры кожнага паляка, беларуса, немца ці ўкраінца неад'емнае. Так як неад'емныя ў іх правы і абавязкі ў адносінах да дзяржавы і дзяржавы ў адносінах да кожнага грамадзяніна. Была гэта ідэя як на той час адважная. Тым больш, што выказваў яе сацыяліст, не пазбаўлены сімпатыі да камунізму, грэбаваўшага межамі дзяржаў і чалавечых нораваў. На шчасце, не даўся прыманіцы чырвонаму молаху. Менавіта ён быў адным з празорліцаў сучаснай дзяржаўнасці, якая, замест адмаўляць шматкультурнасць і шматнацыянальнасць, павінна аднавіць іх значнасць. Інакш кажучы, выказваўся за грамадскую дзяржаву, аснаваную на дэмакратычных прынцыпах. На вестку аб выбуху вайны Дзібуа прадставіўся бательёну сапёраў. Пасля дзейнічаў у падпольнай арміі. Канспіраваць, аднак, не ўмеў. Арыштаваны фашыстамі, загінуў у Асвенціме. Быў крыштальна сумленным палітыкам. На жаль, крышталь, хоць прыгожы, надта далікатны. Можа таму сёння палітычны істэблішмент апанавалі ўдарастойкія, вечныя фігуры? Яны ж і не падвяргаюцца біядэградацыі. Як парожнія пластмасавыя бутэлькі, якіх усюды завалам.*

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Як выдатна?



*Ужо трэці раз з'явіўся рапарт, датычны сітуацыі нацыянальных і этнічных меншасцей ды рэгіянальнай мовы ў Польшчы. Такія рапарты рыхтуюцца не радзей чым кожныя два гады адпаведным ведамствам, якое займаецца меншасцямі, цяпер Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ). Пасля сваю думку на тэму рапарта выказвае Супольная камісія ўрада ды нацыянальных і этнічных меншасцей, а затым дакумент перадаецца Радзе Міністраў. Цяперашні рапарт ахоплівае перыяд ад 1 студзеня 2010 года да 30 чэрвеня 2011 года. Ва ўступе сёлетняга рапарта адзначана: „У гэты перыяд не наступілі значныя змены ў юрыдычнай і інстытуцыянальнай сістэме датычнай нацыянальных і этнічных меншасцей, не праводзіліся таксама дэталёвыя агульнапольскія статыстычныя даследаванні наконт грамадска-эканамічнай сітуацыі меншасцей — за выключэннем праведзенага ў 2011 годзе нацыянальнага перапісу насельніцтва і жылля, вынікі якога не былі даступныя ў момант апрацоўвання дакумента — у сувязі з чым рапарт апрацаваны ў форме дакумента, які актуалізуе інфармацыю, перададзеную ў 2007 г. і 2009 г. у папярэдніх рапартах.*

*Перадумовай рапарта з'яўляецца прэзентацыя юрыдычнай і грамадскай сітуацыі нацыянальных і этнічных меншасцей ды рэгіянальнай мовы. Падобна як і ў папярэдні раз — хацелася б сказаць — на жаль — не апісаны дэталёва праблемы, пастулаты ці ацэнкі, аб якіх заяўляюць меншасныя асяроддзі, абмяжоўваючы ў парацэ — як заяўлена — ацэнкі ў карысць фактаў. Мабыць таму каментарыі і заўвагі меншасных арганізацый апынуліся па-за рапартам, у адным з дадаткаў. Таму вось застаецца пытанне, каму, па-за міжнароднымі ўстановамі, якія вядуць маніторынг галоўным чынам юрыдычнай сітуацыі меншасцей у паасобных еўрасаюзных краінах, служыць гэты рапарт. Напэўна не прапануе ён вырашэнняў праблем паасобных меншасцей. А меншасныя арганізацыі звярталі ўвагу м.інш. на неабходнасць прыглядзецца праблеме падрыхтоўкі і рэалізацыі нацыянальнага перапісу (у час апрацоўкі рапарта перапіс якраз праводзіўся), адсутнасць указання, што існуе праблема інтэрпрэтацыі правілаў аб доступе да асветы, адсутнасць дзеянняў у справе адукацыі настаўнікаў для навучання на мовах нацыянальных меншасцей, звядзенне пытання нецалерантнасці практычна выключна да ромскай меншасці, недахоп інфармацыі аб эскалацыі ў 2011 г. злачынстваў на расісцкай і ксенафобнай глебе. Звернута таксама ўвага на лаканічнасць рапарта.*

*Сёлетні рапарт быў падведзены аптымістычна: „У абмяркоўваны перыяд юрыдычная сітуацыя нацыянальных і этнічных меншасцей ды асоб, якія карыстаюцца рэгіянальнай мовай надалей была стабільнай. Не былі ўведзены істотныя змены ў галіне юрыдычных рэгуліровак датычных меншасцей, затое поўнасцю функцыянавалі найважнейшыя палажэнні закону аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове (...). У духу дыялогу і паразумення вырашаліся праблемы заяўленыя адміністрацыі асяроддзямі меншасцей. Значна павялічылася таксама сума сродкаў перададзеных з дзяржбюджэту на рэалізацыю задач накіраваных меншасцям [наколькі ведаю, сумы перадаваныя МАіЛ, а раней МУСіА, у тым ліку на перыёдыку, ад некалькіх гадоў застаюцца больш-менш на тым самым узроўні — М. Х.]. Абмяркоўваны перыяд канчаткова паказаў, што закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і аб рэгіянальнай мове быў дакументам значным і неабходным, а яго рэалізацыя спрыяе падтрымцы і развіццю культурнай тоеснасці нацыянальных і этнічных меншасцей і развіццю рэгіянальнай мовы". Дык цешымася. Усё выдатна. Выдатна?*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Бельская „тройка” перамагае ў ваяводстве

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Нядаўна адбылося падвядзенне вынікаў удзелу вучняў падставовых школ у прадметных конкурсах і аказалася, што падставовая школа з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім заняла другое месца ў Падляшскім ваяводстве, беручы пад увагу колькасць лаўрэтаў і фіналістаў. Неўзабаве мае адбыцца падвядзенне вынікаў удзелу гімназістаў у прадметных конкурсах. Мабыць, у гэтым рэйтынгу бельскія белгімназісты апынуцца на першым месцы ў ваяводстве. Ажно 32 разы бельскія белгімназісты станавіліся лаўрэатамі ў ваяводскіх прадметных конкурсах і 22 разы лаўрэатамі станавіліся вучні падставовай школы з бельскай „тройкі”. На вынікі глядзяць бацькі, якія ў выніку запісваюць дзяцей у першыя класы бельскай „тройкі”, а таксама вучні іншых падставовых школ, якім трэба рашаць якую выбраць гімназію.**



Частка лаўрэатаў прадметных конкурсаў з падставовай школы і белгімназіі з дырэктарам Васілём Ляшчынскім

— Дзве іншыя бельскія гімназіі маюць разам толькі 6 лаўрэатаў прадметных конкурсаў, а ў нашай белгімназіі, нават адкінуўшы 15 лаўрэатаў конкурсу па беларускай мове, застаецца 17 лаўрэатаў конкурсаў па іншых прадметах, амаль у тры разы больш, чым у іншых бельскіх гімназіях. Калі ўзяць пад увагу падставовыя школы, то ў трох іншых школах у Бельску разам ёсць толькі 9 лаўрэатаў прадметных конкурсаў, а толькі ў нашай школе 12 лаўрэатаў прадметных конкурсаў, нават адкінуўшы 10 лаўрэатаў па беларускай мове. Зрабіў я такі падлік, бо ў нашым горадзе папракаюць нас, што мы дабіваемся поспехаў дзякуючы перамозе ў прадметным конкурсе па беларускай мове. З прадстаўленых мною дадзеных відаць, што гэта няпраўда, — заявіў дырэктар бельскай „тройкі” Васіль Ляшчынскі, які кіруе школай з 1975 года. — Да поспеху нашай школы спрычыніліся традыцыя пастаяннага рыхтавання нашых вучняў да прадметных конкурсаў і поспехі ў гэтых конкурсах, а таксама атмасфера ў нашай школе, дзе ўсе настаўнікі ведаюць, што трэба працаваць з вучнямі здольнымі і не толькі пры нагодзе конкурсаў. Педагогі ў нас накіроўваюць здольных вучняў да працы і сочаць за іх развіццём. Без пастаяннай працы вучняў на пазаўрочных занятках, якіх у нас многа, цяжка было б дабіцца поспехаў у конкурсах. Усюды на свеце на самых здольных вучнях, а пасля дарослых людзях, трымаецца цывілізацыйнае развіццё.

На падставе дадзеных відаць, што ў „тройцы” здаўна было многа лаўрэатаў прадметных конкурсаў, але самых лепшых вынікаў дабіваецца бельская падставовая школа з дадатковым навучаннем беларускай мовы і бельская белгімназія ў апошнім часе. Пачынаючы з 1975 года (ад таго года зроблены ў школе падлікі) у „тройцы” было 270 лаўрэатаў з падставовай школы і 119 лаўрэатаў з белгімназіі (астатняя дзейнічае з 2001/2002 школьнага года). У мінулым годзе за поспехі вучняў у прадметных конкурсах, у вучобе, за поспехі ў спорце і ў галіне музыкі бельская „тройка” ад міністра адукацыі Катажыны Гаць атрымала званне „Школы адкрывальнікаў талентаў”, а нядаўна дырэктар „тройкі” Васіль Ляшчынскі атрымаў ад падляшскага ваяводы Мацея Жыўны індывідуальны дыплом за паспяховае кіраванне школай. Зараз у падставовай школе вучыцца 360 вучняў, а ў белгімназіі — 256 і за выключэннем некалькіх вучняў з фізічнымі абмежаваннямі ўсе ходзяць на заняткі беларускай мовы.

— У нашай школе дзейнічаюць ажно 4 вакальныя калектывы і 2 танцавальныя і ўсе яны беларускія, — сказаў з гордасцю дырэктар Васіль Ляшчынскі. Настаўніца музыкі Анна Вярцінская вядзе вакальныя калектывы „Вясёлка” і „Капрыс” і танцавальныя „Світаначак” і „Світанак”, настаўніца Іаанна Хількевіч займаецца з калектывам „Вянок”, а Анна Фіёнік і Марыянна Ваўрусевіч займаюцца з „Жэўжыкамі”.

— Калі бацькі запісваюць дзетак у нашую школу, часта маюць на ўвазе тое, што пасля яны будуць працягваць адукацыю ў белліцэі. Вельмі важна, што белліцэй і нашая „тройка” знаходзяцца ў спалучаных з сабой будынках, а мы вучымся таксама ў будынку, над ліцэістамі. Гэта дае праланову комплекснай адукацыі ад першага класа падставовай школы да трэцяга класа белліцэя ў адным месцы і ў сваёй атмасферы, з пастаянным навучаннем беларускай мовы. Мы бярэм пад добрую апеку тых белгімназістаў, што раней вучыліся ў іншых падставовых школах і рашыліся працягваць адукацыю ў нашай школе. У першым класе белгімназіі ходзяць яны на заняткі беларускай мовы і дадаткова дзве гадзіны ў тыдзень вучацца беларускай мове разам з нашым настаўнікам, каб не мелі праблемы па гэтым прадмеце, — гаварыў дырэктар Васіль Ляшчынскі.

Некаторыя вучні з „тройкі” сталі лаўрэатамі па двух прадметных конкурсах, а Хрыстафор Лушчынскі з шостага класа падставовай школы стаў лаўрэатам ажно па трох прадметных конкурсах: па гісторыі, прыродзе і польскай мове, а фіналістам па двух іншых конкурсах: па матэматыцы і англійскай мове.

— Цікавяць мяне многія прадметы і таму я рашыўся паспрабаваць сіл у многіх конкурсах. Стараўся так вучыцца, каб адпаведна размеркаваць час на падрыхтоўку да конкурсаў па розных прадметах. Многа было вучобы і цяжка было рыхтавацца, але ўдалося стаць лаўрэатам ажно па трох конкурсах, — сказаў з задавальненнем Хрыстафор Лушчынскі.

Ніка Юрчук, таксама з падставовай школы, стала лаўрэатам па беларускай і расійскай мовах.

— Па беларускай мове конкурс быў вельмі простым, а па расійскай мове многа я вучылася, каб можна было дабіцца поспеху, — заявіла з радасцю Ніка Юрчук.

— Мне не ўдалося дабіцца поспеху ў конкурсе па геаграфіі, але радуюся, што стала лаўрэатам па беларускай мове, — гаварыла белгімназістка Анна Нікіцюк. — Рыхтуючыся да конкурсаў паўтарыла я веды па згаданых прадметах, мела магчымасць параўнаць свае ўмеласці з іншымі вучнямі і здабыла дадатковы вопыт, які буду магла выкарыстаць у час завяршальнага гімназічнага экзамену.

Белгімназіст Каміль Сцепанюк стаў лаўрэатам па матэматычным і гістарычным конкурсах, а фіналістам па хіміі.

— У мяне шырокія зацікаўленні, але асабліва люблю вучыцца па гэтых прадметах, па якіх прыступіў да конкурсаў. Каб дабіцца перамогі ў конкурсе трэба многа працы ўкласці ў час падрыхтоўкі, хаця і ад шчасця многа залежыць. Вельмі многа залежыць таксама ад вопыту і працы нашых настаўнікаў, якія ўкладаюць многа сіл і адводзяць многа часу, каб падрыхтаваць нас да прадметных конкурсаў. Нашыя педагогі карысталіся вопытам, тэстамі і заданямі з мінулых гадоў. Мы практычна ад верасня пачалі рыхтаваца да конкурсаў, а ў маім выпадку я па некалькі разоў у тыдзень прымаў удзел у пазаўрочных занятках, а пасля часта ў час зімовых канікулаў працаваў з настаўнікамі, — расказваў Каміль Сцепанюк. Канстанцыя Ксенія Дораш стала лаўрэатам у конкурсах па гісторыі і біялогіі, а раней была лаўрэатам па расійскай мове.

— Многа працы трэба было ўкласці, каб дабіцца перамогі, а не атрымалася ў мяне ў конкурсе па хіміі, бо складана ўсебакова падрыхтавацца да конкурсаў. Перамога ў трох конкурсах звальняе мяне з завяршальных гімназічных экзаменаў і па іх я атрымаю максімальную колькасць балаў. Лаўрэаты ўсіх конкурсаў па-за адборам прымаюцца таксама ў звышгімназічныя школы, — гаварыла Канстанцыя Ксенія Дораш.

Мае субяседнікі з белгімназіі заявілі, што хочуць прадаўжаць вучобу ў Бельскім белліцэі.

— Я стала лаўрэатам па польскай мове, а не атрымалася ў мяне па матэматыцы. У выпадку польскай мовы найбольш залежала ад лагічнага думання і, канешне, трэба было прачытаць тыя кніжкі, па якіх былі пытанні, — сказала Кацярына Хмур.

Анна Нікіцюк і Канстанцыя Дораш звярталі ўвагу на добрую атмасферу ў „тройцы” і высокі ўзровень навучання ў іх школе, што схіляе новых вучняў паступаць у бельскую школу з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Вучні з „тройкі”, што дабіваюцца поспехаў у конкурсах і ў вучобе па-за конкурсамі, апрача розных вылучэнняў у канцы школьнага года, атрымліваюць стыпендыі — школьную, бурмістра Бельска-Падляшскага або маршалка Падляшскага ваяводства.

— На жаль, у польскай сістэме адукацыі слаба распрацаваная сістэма працы са здольнымі вучнямі, за якой павінна ісці фінансавая дапамога, хаця многа ўвагі адводзіцца на працу з вучнямі менш здольнымі, каб іх падраўняць да сярэдняга ўзроўню навучання. Я вымушаны здабываць грошы на дадатковую дапамогу вучням і на дадатковае абсталяванне школы ў сучасную тэхніку ў спонсараў, бурмістра, ці прасіць у Рады бацькоў. У нашай школе апрацавана свая сістэма дапамогі здольным вучням і фінансавай падтрымкі настаўнікаў, вучні якіх дабіваюцца поспехаў у вучобе, спорце, музыцы, ці іншых праявах школьнага жыцця. Хаця я маю магчымасць заплаціць са школьнага бюджэту толькі за 16 гадзін пазаўрочных заняткаў у тыдзень, а ў нас працуе ажно каля 70 настаўнікаў, то маю магчымасць для самых лепшых педагогаў прызначыць ажно да 500 злотых у месяц у якасці дадатку заахвочваючага да працы. Настаўнікі, якіх вучні дабіваюцца поспехаў, між іншым у конкурсах, атрымліваюць да 6000 злотых у год заахвочвальнага дадатку і гэта ў пэўнай ступені кампенсуе цяжкую працу педагогаў у час пазаўрочных заняткаў, — сказаў дырэктар Васіль Ляшчынскі.

**Лаўрэатамі прадметных конкурсаў у падставовай школе сталі:**
па беларускай мове: Анджэліка Сцепанюк, Юстына Якубюк, Максім Фіёнік, Мартына Швед, Магда Магрук, Марта Бручко, Кацярына Верамяюк, Губерт Анішчук, Мартына Янкоўская і Ніка Юрчук;
па польскай мове: Ева Авярчук, Паўліна Казімірук, Ніка Паўлючук, Хрыстафор Лушчынскі і Юстына Марчук;
па расійскай мове: Ніка Юрчук;
па англійскай мове: Адрыян Ігнацюк;
па матэматыцы: Эвеліна Самасюк;
па гісторыі: Хрыстафор Лушчынскі, Якуб Ваўрусевіч і Грыгорый Зінкевіч;
па прыродзе: Хрыстафор Лушчынскі.
**Лаўрэатамі ў белгімназіі сталі:**
па беларускай мове: Аніта Дзмітрук, Анна Нікіцюк, Аляксандра Сарокін, Аляксандра Варшыцкая, Малгажата Пухальская, Аляксандра Сычэўская, Міхаліна Сахарчук, Павел Дамброўскі, Паўліна Зінкевіч, Філіп Капацкі, Паўліна Паўлючук, Наталля Ракіцкая, Кінга Бадавец, Кінга Пашко і Сільвія Якубоўская;
па польскай мове: Кацярына Хмур;
па расійскай мове: Уршуля Сліўко, Софія Нідэ, Караліна Ткачук і Адрыян Іванюк;
па матэматыцы: Караліна Ткачук, Каміль Сцепанюк і Грыгорый Ігнатовіч;
па біялогіі: Іаанна Нявінская, Караліна Шуй, Канстанцыя Ксенія Дораш і Юлія Панютын;
па гісторыі: Лукаш Папёлэк, Канстанцыя Ксенія Дораш і Каміль Сцепанюк;
па хіміі: Сільвія Анна Чыжкоўская і Іаанна Марчук.

## Дэкарацыі

Як і ў папярэднія гады, гэтак і сёлета ў Беластоку пасадзяць многа кветак. Яны будуць упрыгожваць наш горад ад пачатку красавіка да канца кастрычніка. Традыцыйна на рабатках закрасуюць браткі ў розных колерах. Найбольш іх будзе ў рабаткавых кампазіцыях на плошчы Незалежнасці і на кругавой развязцы Люсы. Тут дамінуючымі колерамі будуць жоўты, блакітны і белы. Браткі будуць аздобай таксама парку Плянты, сквера Армі Краёвай і кругавой развязкі ў Дайлідах.

Чырвоныя цюльпаны пасадзяць, між іншым, на плошчы Дмоўскага і кругавой развязцы Катынскай. Цюльпанамі і шафранамі будзем захапляцца на плошчы кс. Сапоцкі. На скверы Занкевіча (пры вул. Сянкевіча) зацвітуць жоўтыя шафраны на чатырох рабатах. Тут пасадзяць яшчэ кустарнікі магноліі і дрэўцы клёнаў. Гранітныя міскі з кветкамі будуць стаяць на вул. Суражскай, на плошчы Яна Паўла ІІ, на вул. Сянкевіча. Браткі ў скрынках будуць упрыгожваць вуліцы Бялуўны, Спулдзельчую і Пенкную. Кветкі зацвітуць у скрынках у парку імя Я. Дзяконскай. Да канца красавіка закончаць садзіць цюльпаны, гіяцынты, першацвет, маргарыткі, орлікі і касачы, а нават незабудкі.

## Больш дошак аб'яў

Зараз у вёсках Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) з'явіліся новыя прыгожыя дошкі аб'яў. Яны з дашком ад дажджу. У мінулым годзе ў маі такія дошкі аб'яў паставілі, між іншым, у Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Плянце і ў Новінах (у гэтай вёсачцы такой дошкі аб'яў раней увогуле не было і аб'явы прыбівалі на платах).

У Новым Ляўкове былі дзве дошкі аб'яў. Адну тры гады таму забралі. Яна стаяла ля г.зв. злеўні малака і побач крамы ГСу — у месцы, якое прынялося называць тут Пацановам. 28 сакавіка гэтага года солтыс Новага Ляўкова на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы папрасіў вярнуць дошку аб'яў у Пацанова. Яна тут патрэбная. Жыхары другой часткі вёскі ды прысёлка Новага Ляўкова хочуць ведаць пра культурна-забаўляльныя мерапрыемствы, якія ладзяцца ў Нараўцы, Семяноўцы, Альхоўцы, Масеве, Свінароях і ў Забалотчыне, а таксама ў Міхалове і ў Гайнаўцы. Вясною і летам такіх імпрэзаў будзе шмат. Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч паабяцаў даць другую новую дошку аб'яў у Новае Ляўкова. Дык будзем чакаць.

## Васількаўская дэмаграфія

У Васількаўскай гміне (Беластоцкі павет) — васемнаццаць мясцовасцей, у якіх пражывае 14 357 чалавек. Найбольш жыхароў налічвае горад Васількаў — 9 911 чалавек. Найбольшай вёскай з'яўляюцца Студзянкі — 1010 асоб. Вялікія вёскі ў гэтай гміне гэта Навадворцы — 677 чалавек, Сахоне — 638, Юроўцы — 616, Дамброўкі — 456, Рыбнікі — 254, Асовічы — 233, Вулька-Прадмесце — 155 і Селяхоўскія — 141 чалавек. Чарговыя вёскі малыя і невялікія: Варашылы — 75 жыхароў, Гараднянка — 58, Катрынка — 43 і Вулька-Падухоўная — 39. Ды ёсць яшчэ і меншыя за іх: Запечкі — 19, Масток — 17 і Ажыннік — 12 чалавек. Найменшым пасяленнем з'яўляецца калёнія Засцянак — у ім пражываюць тры асобы. У 2011 годзе ў ЗАГСе ў Васількаве зарэгістравана 196 народзінаў і 99 паховін, гэта значыць, што гміна — на дэмаграфічным плюсе.

**(яц)**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Тупанне каля Нетупы





Аўтобусны прыпынак Белагорцы знаходзіцца зараз за мостам на Нетупе, што па дарозе з Крынак у Крушыняны. А мост той зараз за старым драўляным млыном. Трыццаць пяць гадоў таму Мікола Гайдук, у 51-м нумары „Нівы" з 1977 года, так пісаў пра мінулае жыхароў Белагорцаў: „З уласнага загона пракарміцца было немагчыма, таму хто дуж падаваліся на розныя заробкі. У суседніх Пілатоўскім і Скрабляцкім лясах на порубах дзерлі яловую кару, сушылі, таўклі і малолі яе ў вадзяным млыне каля Возера на рэчцы Нетупе і прадавалі ўласнікам славутых гарбарняў у Крынках".

Ранейшым пакаленням, у тым ліку і пакаленню Міколы Гайдука, не былі вялікімі тайнамі азы ўсялякай вытворчасці, якая атрыманую ў вясковых гаспадарках сыравіну пераўтварала ў патрэбныя ў тых жа гаспадарках тавары. Тады вытворчасць такіх тавараў адбывалася недалёка, па суседніх вёсках ці мястэчках. Цяперашняя вытворчасць адбываецца далёка не толькі ад нашых вёсак, але нават і ад нашых гарадоў. Няма ўжо ў Крынках гарбарняў, няма ў Беластоку і навакольных мястэчках тэкстыльнай прамысловасці. Цяпер нам вопратку ці абутак камерсанты завозяць з далёкіх краін, у галоўным з Кітая. Маладое наша пакаленне знаёміцца з некаторымі лягчэйшымі відамі колішняй вытворчасці, напрыклад з саломапляценнем, у час майстар-класаў. З майстар-класамі па больш складаных відах вытворчасці, напрыклад па гарбарстве, мяркую, было б тугавата. Бо тут і складаная вытворчая лінія, складаная тэхналогія ды і сыравіну перасталі вырошчваць... Падкажу адно толькі, што ў гарбарстве для вырабу шкур найчасцей выкарыстоўвалася дубовая, вярбовая і яловая кара; апошняя абыходзілася найтанней...

Ці ў белагорскім млыне малолі адно яловую кару крынкаўскім гарбарам, ці таксама зерне на муку, зараз гэта мала істотнае. Драўляны млын даўно ўжо перайшоў на „пенсію" і неяк не відаць, каб хто ім цікавіўся, хаця нейкая мода на старыну, у тым ліку і архітэктурную, жыве. Чакае ён, быццам казачная прынцэса свайго казачнага рыцара...

Не надта далёка ад таго млына, мо з паўкіламетра ў напрамку вёскі Трэглі, не менш самотны ад яго вялікі валун, прысвечаны памяці савецкага генерала Віктара Жолудзева. Помнік быў пастаўлены ў 1974 годзе, трыццаць гадоў пасля гібелі генерала менавіта ў гэтым месцы. Думаю, што варта некалькі слоў увагі прысвяціць гэтаму чалавеку...

Нарадзіўся Віктар Жолудзеў у 1905 годзе ў горадзе Угліч на Волзе. Падлеткам стаў ганяць плыты па Волзе, а калі яму споўнілася семнаццаць гадоў, стаў на службу ў армію. Служыў ён у розных рэгіёнах Савецкага Саюза: на Сахаліне, на Далёкім Усходзе, у Манголіі, Забайкаллі, Іркуцку, на Паволжы, у Падмаскоўі, Ленінградзе, у Прычорнамор'і... Вайна засцігла яго на захадзе Украіны. Ваяваў ён у абароне Кіева, Ленінграда, Сталінграда, на Курскай дузе... У 1942 годзе ўступіў у КПСС і атрымаў званне генерала. У ходзе вайны загінулі многія ягоныя баявыя таварышы, а ён часам атрымліваў раненні, але выжываў. У ходзе аперацыі „Баграціён" па вызваленню тэрыторыі Беларусі, камандуючы 35 стралковым корпусам у складзе 3 арміі 2 Беларускага фронту дайшоў да рубяжу нашай рэчкі Нетупы і ў час рэкагнасцыроўкі 21 ліпеня 1944 года ўзарваўся на міне; пахаваны ў Ваўкавыску. Савецкія рэсурсы інфармуюць: „У здания Волковыскской школы № 1 установлен бюст Героя, в Волковыске и Волгограде установлены мемориальные доски. Фамилия Героя увековечена на мемориале Героям Сталинградской битвы. Его именем названы улицы в Волгограде, Киеве, Волковыске, Угличе". Пра мемарыял каля нашых Трэгляў ні слова. А і тут памяць пра яго толькі ў абломачку шкла ад калісь-калісь згарэлай лампадкі. А прайшоў жа чалавек паўсвету...



Млын каля Белагорцаў

Ад помніка падаўся я акраінай 50-60-гадовай хваіны ў напрамку вёскі Плябанава. Невялікая яна, але на абочыне край ляска на зарослым дрэвамі пляцы паказаўся будынак вельмі характэрны для колішніх вясковых школ-тысячагодак. Ягоныя вялікія вокны шчыльна забіты дошкамі, але абгароджаны ён дбайна ды і меншы будыначак побач паказаўся таксама задбаным, амаль абжытым; фортачка на панадворак была, аднак, пад замком...

Крыху пазней удалося мне завесці гутарку з пажылым вяскоўцам, які паінфармаваў мяне, што ў тым будынку ў сапраўднасці была калісь школа, а пазней набыла яго настаўніца і цяпер былым школьным будынкам апякуецца ейны сын. Мой субяседнік неадабральна выказаўся пра тую перадачу былой школьнай маёмасці, што яна адбылася за марныя грошы. Ды і шмат чым іншым быў ён незадаволены. Уся моладзь пакінула вёску, як толькі настаў Валэнса, — наракаў ён. Калісь штосьці дзеялася, будавалі дарогі, а сёння нічога. Прайшоўся ён крыху са мною па вулічцы сваёй невялікай вёскі. На ўзгорачку паказаўся прызабыты будынак характэрны для вясковых пунктаў прыёму малака; спытаў я, калі яго закрылі...

— Як настаў Валэнса, — пачуў я ў адказ.

Наш сусветна слаўны нобелеўскі прэзідэнт стаў у нашай вясковай прасторы казлом адпушчэння за ўсе вясковыя нягоды...

Распытаў я свайго субяседніка, як з Плябанава дабрацца ў Халодныя Валокі (а Халодныя Валокі заінтрыгавалі мяне менавіта даволі таямнічай сваёй назвай), бо дарогі пазначаныя на мапе не надта супадаюць з дарогамі на месцы, а паказальнікаў у нас, у зарослым лясамі колішнім полі, наогул няма, бо і не надта ёсць каму іх стаўляць. Атрымаў я ўказанне, каб на галоўным разгалінаванні дарог трымацца правага напрамку... Аднак у лясных лабірынтах тых разгалінаванняў

працяг ☞ 11

Іаанна ЧАБАН

*Кожная мая сустрэча з найстарэйшымі жыхарамі Крынкаўскай зямлі даказвае, што яшчэ не нашмат аддаленае ўчора і сёння гэта дзве розныя прасторы, з іншымі звычаямі, моваЙ, каштоўнасцямі. Пошукі таямнічага мінулага ў гэты раз завялі мяне да парога хаты шасцідзесяцішасцігадовай Любы Наўмовіч родам з Азяран-Вялікіх, якая ахвотна раскрыла кнігу сваёй памяці на старонцы пад загалоўкам „велікодныя традыцыі".*

# З азяранскіх велікодных успамінаў

Спадарыня Люба пачала з размалёўкі прыгожай карціны люднага сяла, адпраўляючагася на ўсяночную ў крынкаўскую царкву сустракаць свята свят. Больш за пяцьдзесят каляровых ад свойскіх капаў фурманак, загружаных шматлікімі сямействамі адна за адной перааддольвалі немалы, у больш за дзесяць кіламетраў, кавалак дарогі.

Мама спадарыні Любы заўсёды рыхтавала ў царкву беленькія мяшочкі з хлебам і саланінай. На пытанне маленькай Любы: „Маму, а каму вы тыля бярэця?" чуўся адказ: „Жабраке будуць пад цэрквай, трэба кожнаму даць". Жабракоў збіраўся цэлы прытвор і католікаў, і праваслаўных, давалі ўсім без розніцы. Яны стаялі выцягнуўшы руку, кругом чуўся безупынны шэпт іхніх заўпакойных малітваў. „Мама кожнаму мусіла даць, каб не пакрыўдзіць нікога, кожнаму гаварыла імя пакойніка, за якога жабрак маліўся. Жабракі маліліся за памерлых, таму кожны стараўся на святы завезці ім гасцінца".

Найцяплейшыя ўспаміны спадарыні Любы звязаны менавіта з праваслаўна-каталіцкім святкаваннем Вялікадня, якое супадала раз на некалькі гадоў. „Мы прыязджалі дахаты з усяночнай, з ночы, а католікі ехалі ў касцёл, заўша на шостую; заўша па дарозе сустракаліся: мы дахаты, а яны — у касцёл". Прыехаўшы з царквы, адразу саджаліся за святочны стол, паснедаць. Згаварыўшы „Отча наш", дзяліліся прывезенай з царквы свянцонкай. „Мама рабіла такую булачку, печаную ў невялікай каструльцы — яна так файна падыходзіла, харошая булачка была — ставіла яе пасярэдзіне, на гэту булачку клала кілбасу, па кругу яйкі, хлеб асвечаны, соль. Як разгаўляліся, то ўсе тыя шкарлупкі папа збіраў і аддаваў жывіне, як лякарства, напрыклад свінні, якая не спарошвалася". На святочны стол мама спадарыні Любы ставіла бляху печаных маленькіх фрыкадэлек, мусілі быць свойская кілбаса, кумпяк печаны або адвараны, хадкі, вараная капуста і абавязкова многа салодкіх пірагоў. Усё гэта запівалі хатнім падпіўкам і ліманадам-„аранжадай". Спадарыня Люба да сёння памятае непаўторны смак і колер тагачаснай „аранжады", робленай на базе спецыяльнага ліманаднага парашку, купленага на крынкаўскім заводзе. Потым увайшла мода на ліманад з лімонам з вадой і цукрам. Па лімоны ездзілі таксама ў Крынкі.

Паснедаўшы, толькі маладыя ішлі адпачываць, бо бацькам трэба было ўпраўляцца. Пасля паўставалі, папалуднавалі і з кішэнямі поўнымі вараных яек ішлі „ў рэйс": хлопцы да сваёй кампаніі, а дзяўчаты — да сваёй. У асноўным гулялі ў біткі: глядзелі, чыё яйка мацнейшае; мацукамі былі маленькія яйкі. Пераможца ва ўзнагароду з'ядаў усе пабітыя трафеі.

Пасля абеду найбольш таленавітыя вясковыя хлопцы збіраліся на валоканне — віншаванне спецыяльнымі песнямі і пажаданнямі ўсіх з велікодным святам. „Найвесялей было, калі разам з католікамі святкавалі, тады і валакальная кампанія была супольная, праваслаўна-каталіцкая. Моладзі было вельмі многа, хадзілі ад хаты да хаты з гармонікам, вельмі хораша спявалі. Католікам рыхтавалі „Wesoły dzień nam dziś nastał". Мала хто ведаў гэтую песню, бо большасць валакальнікаў была праваслаўная, але „Alleluja" на канец то ўжо добро гукалі! Адзін гаспадар, у якога толькі што „вэсолы дзень" прагучаў, выйшаў з хаты і адвалакаў: „Вэсолы нам дзісь дзень настаў, бацько кавалак хлеба дастаў, маці зацірку наварыла і ўсіх нас накарміла". Смехата была!



З настаўніцай, спадарыня Люба другая справа



Люба Наўмовіч, у дзявоцтве Адамік, з сястрой Ірэнай, у Азяранах-Вялікіх

Абход пачыналі з Малых Азяран, у вокны бацькоўскай хаты пані Любы стукалі позна-позна, сярод цёмнай ночы. На пачатку хрыстосаваліся, пыталіся: „Пазволіце паспяваць, Хрыста праславіць, з празнікам паздравіць?" Абавязкова гучала святая песня „Хадзіў Хрыстос сам па зямле", пазней, калі дзяўчаты былі ў хаце, то ім паву ці канапельку спявалі. Завяршалі абход спецыяльным вершыкам „На гарэ Галгофе Маць стаяла, горка плакала-рыдала".

*Не плач, мая маці, святы крэст на сабе нашу, валачонна прашу.*

*Прашу даваць, не шкадаваць, каб было за што падзякаваць, Алелюя!*

Накont незамужніх дзяўчат дадавалі:

*Пенкна панна выросла, жэб у тым року замонж пошла,*

*Ні за хлопа млодэго, але за круля самэго.*

*Прошу даваць копу яек, сыра кавалэк, пірога не крайце і бутылку дайце.*

Гаспадыня выносіла заплату; грошай тады ў людзей не было — плацілі яйкамі, найчасцей сырымі. Іх валакальнікі ў краме на грошы мянялі, за якія аплачвалі музыкантаў, а яшчэ і на гарэлку заставалася. „Мая мама заўша паўкаша яек давала. Хлопцы, бывала, сядуць з кошыкам поўным сырых яек і закладваюцца, хто з іх больш яек вып'е; адзін такі па семнаццаць каўкаў! Весела было, як разам было свята, вельмі файна было — раз усе хадзілі, такія дружныя былі...". На другі дзень свята валакальнікі за зароблены грошы гадзілі музыкантаў і запрашалі дзяўчат на забаву.

Вялікдзень, таксама як і Раждаство, у роднай вёсцы спадарыні Любы багата святкавалі цэлыя чатыры дні. На чацвёрты дзень у азяранскай царкве вялася святочная служба — гэта была Градавая серада, калі маліліся, каб град плёнаў не нішчыў. А цяпер — „у Крынках два дні, і ўжо па свяце!..".

Спадарыня Люба не ўяўляла пасхальнага перыяду без наведання юраўлянскай царквы ў дзень святога Юр'я — ахоўніка ўсіх земляробаў і хатняй жывёлы. Калісь вельмі шумна Юр'я святкавалі. З крынкаўскай царквы штогод выходзіла вялікая працэсія з іконамі, крыжамі, ішлі з хрэсным ходам да саміх Юраўлян. З Азяран фурманкамі туды ездзілі. „Папа выязджаў раненька, чуць свет, то мы заедзем, яшчэ каня паставім пры бруку, бо як хто пазней прыязджаў, то ўжо далёка-далёка ставіў воз, столькі фурманак было... Гэта ж вельмі важнае свята, бо маліліся „за ісцаленне ската і за ўраджай зямной", вельмі было ўрачыста... Перад юраўлянскай царквою выстаўлялі ікону святога Юр'я, якой прыносілі ахвяраванні; прывозілі хто што меў, найчасцей воўну, яйкі і грошы. Чырвоныя яйкі таксама аддавалі жабракам, каб і тыя за скаціну памаліліся... Я і цяпер на Юр'я ў хаце не магу сядзець... Я, як пару гадоў таму была ў Юраўлянах, нават іконы ніхто не насіў. Пару бабак прыйшло, паклалі пару злотых. І думаю так сабе: як усё замірае, усе людзі старыя, дажываюць. Так усё разбеглася...".

## Яшчэ аб нібыта перапісе

Думаў я не вяртацца да гэтай справы, бо, як кажуць рускія, „после боя кулаками не машут". Але паколькі „Ніва" двойчы (№№ 12 і 14) пісала на гэтую тэму, і я рашыў выліць свой жаль. Я ўсё жыццё стаяў на прадзяржаўных пазіцыях. Лічыў, што дзяржава, у якой жыву, значыць айчына, з'яўляецца дабром вышэйшага парадку, якое трэба ахоўваць і шанаваць. Аднак гэтая дзяржава робіць усё, каб мяне аддаліць ад сябе, адпіхнуць. Адно з такіх дзеянняў гэта стаўленне да маёй асобы ў час перапісаў насельніцтва. Ні ў час перапісу 2002 года, ні ў час мінулагодняга перапісу ніхто не паклапаціўся зайсці ў мой дом і ўзяць даныя. А шкада, бо я выправіў бы нацменшасную статыстыку як у плане нацыянальнасці, так і хатняй мовы. Пэўна ўлады западозрылі няскладнае і пастараліся, каб было на аднаго кацапа менш. У час апошняга перапісу насельніцтва, па-за адной сям'ёй, якая спісалася па інтэрнэце, не сустрэў я нікога, каго наведаў бы перапісчык. Ні ў маёй вёсцы, ні ў Сямятычах, ні ў Лодзі, ні ў Пётркаве-Трыбунальскім. Цяжка дапусціць да сябе думку, што гэта нейкая выпадковасць. Думаю, што ў гэтай справе цяперашнія адміністратары краіны поўнасцю праігнаравалі тое, за што бяруць цяжкія грошы. Я адчуваю сябе зняважаным. Навошта былі даперапісныя нарады, кансультацыі з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей, дыскусіі на тэму зместу пытанняў, плакаты, публікацыі, перапісныя гаджэты і іншыя псеўда-падрыхтоўкі? Намнога танней для нас усіх („танная дзяржава!") было б не дурыць нікому галавы нібыта перапісам, а адпаведныя лічбы для еўрасаюзных „патронаў" узяць са столі. Ну што ж, калі дзяржава мае мяне, грамадзяніна, у задніцы, то я буду рабіць тое ж самае. Прашу больш мяне не турбаваць сваімі выбарамі, рэферэндумамі ці чарговымі перапісамі. Лепш гэты час прызначыць на сон, або піццё гарэлкі — здаравей будзе!

**М. Ц.**

## Вырашылі праблему

Ад даўжэйшага часу жыхары Чаромхаўскай гміны прад'яўлялі заўвагі ў адрас Гміннага асяродка здароўя наконт медычнай апекі. Праблема была ў тым, што сямейны лекар — пенсіянер — часта адсутнічаў на рабоце па прычыне хваробы або водпуску. У час адсутнасці заступаў яго лекар з Гайнаўкі. Але з даездамі, як вядома, усяляк бывае. Здаралася, што хворыя з Чаромхі ў час раптоўных выпадкаў вымушаны былі выклікаць хуткую дапамогу або дабірацца прыватным транспартам да бліжэйшага лекара. Справа неаднойчы ставілася на сесіі Рады гміны. Безвынікова. І хоць гміна прапанавала службовую кватэру для медыка, ахвотных працаваць у Чаромсе не было. Як заявіў на апошняй сесіі дырэктар Гайнаўскага ЗОЗ Грыгорый Тамашук, з 1 красавіка ў Чаромсе будуць працаваць два лекары: дагэтуль заставаўшыся на штаце сямейны лекар А. Лагуна і лекар з Гайнаўскага шпіталя. Гэты апошні будзе прымаць пацыентаў тры разы ў тыдзень, а сямейны лекар — два. Апрача таго раз у тыдзень пацыентаў прымае неўролаг. Як бачым, няма спраў немагчымых. Трэба адно добрай волі з абодвух бакоў, каб вырашыць праблему. І чаромхаўскі самаўрад супольна з дырэктарам Самастойнага публічнага прадпрыемства медычнай дапамогі ў Гайнаўцы такой магчымасцю пакарысталіся. Так быць павінна.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
w w w . e - z o r k a . p l

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Карысныя парады разумнага сабакі

Конкурснікаў „Зоркі” зноў чакаюць арыгінальныя ўзнагароды. У гэты раз мы прапануем комікс-серыял „Прыгоды Супер Піфа”, спісаныя самім героем: **www.superpeif.com**

Комікс вясёлы, суперсучасны і адукацыйны. Ён нібыта пра сямейку Каліноўскіх, якая пражывае дзесьці ў цэнтральнай Еўропе, дзесьці ў вялікім горадзе (гэта падказваюць іх прафесіі), верагодна ў Беларусі (гэта падказваюць іх імёны: Іван, Вольга, Таня, Барыс).

Члены сямейкі, як крыху іранічна адзначае галоўны герой, *не могуць і кроку ступіць без інтэрнэту*. А там столькі добрага і адначасова шкоднага. Таму ён, іх сабачка такса, увесь дзень клапоціцца пра бяспеку сямейкі. Супер Піф звычайна паспявае пабываць усюды і дапамагчы ўсім. Бо ён не проста сабака Піф, ён — *Paif: a Pet Expert on Internet Filtering*. Вось перад хвілінай падказаў Тані, якая марыць пазнаёміцца з італьянцам і пабрацца з ім шлюбам, адно з элементарных правілаў бяспекі ў сацыяльных сетках. Сабака асцерагае яе, каб ніколі не пакідала наладкі акаўнта „па змоўчанні”, каб наладжвала свой рахунак сама. Бо чым больш у яе будзе індывідуальных наладак — тым складаней за ёй будзе „падглядаць” або ўзламаць яе акаўнт. Раіць таксама ёй асцерагацца ўсякага спаму... Перасцярога тут вельмі дарэчы, за чаканага „італьянца” схоча падшыцца Віктар з суседства, які ведае мары прыгажуні! Сабака будзе дапамагаць адначасова Віктару, усведамляючы хлапца, каб не рабіў дурных памылак. У рэшце рэшт, як у сапраўдным жыцці, перамогуць сапраўдныя, а не віртуальныя пачуцці!




Не менш эмацыйная і пакручастая праблема ў студэнта-музыканта Барыса. На канцэрт яго гурту, які ўвесь час меў паклоннікаў, чамусьці ніхто не прыйшоў.

— Што такое здарылася?

Аказваецца, іх музычны альбом яшчэ да канцэрта кожны мог сабе спампаваць у інтэрнэце. Музыканты нічога не разумелі. Яны не ставілі сваёй музыкі ў інтэрнэт, іх запісы існавалі толькі на асабістых ноўтбуках, забяспечаныя надзейнымі паролямі. Як тады плён іх працы сам апынуўся ў сеціве?!

— Але ж вы з сябрамі пастаянна карыстаецеся бясплатным *wi-fi* ва ўніверсітэцкай кавярні, — усвядоміў студэнту сабака.

— Э-э-э... Ну так... — раптам зразумеў студэнт. Барыс дадумаўся што альбом мог скрасці адзін металхэд з пятага курса, які яго гурт зняважыў і абазваў папсавікамі...

Інтэлігентны такса Супер Піф растлумачыў як проста змайстраваць падобнае махлярства, і як адначасова ўсцерагчыся ад такога „сюрпрызу”....

Вельмі карысная навука! Асабліва ў час, калі гучна асвятляем пытанне свабоды ў інтэрнэце, звычайна дапамагае пазбегчы нежаданых сюрпрызаў. Пра гэта напамінае падзагаловак выдання: „Онлайн-бяспека для імбрыкаў **www.superpeif.com**” **.**

Скажаце — пра гэта мы ўжо чулі! Згода. Надзвычай карысная (і цікавай) справай будзе знаёмства з беларускімі назвамі, звязанымі з камп’ютарам, інтэрнэтам, мабільнікамі ды іншымі камунікатарамі. Дзякуючы коміксу мы можам наладзіць файныя заняткі ці суперберарускі спектакль з выкарыстаннем тэхнічных слоў, якія звычайна ведаем па-англійску.

**ЗОРКА**

# Конкурс пра вясну (17)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Вясной першымі абуджаюцца рэчкі і тут пачынаюцца першыя прызнакі новага жыцця ў прыродзе. Вазьміце, калі ласка, у рукі карты і разам з намі пашукайце вялікіх рэк і малых рачулак, якія плывуць на Падляшшы. Спадзяемся, што на вашай дарозе будзе шмат нечаканых момантаў і развязак. Падкажам, што ў некаторых пытаннях будзе больш чым адзін правільны адказ. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якая рака плыве праз мястэчка Нарва?**

*а) Сасноўка, б) Нарва, в) Гніліца.*

**2. Якой маленькай рачулкай мы можам, пасля далучэння да большых рэк, даплысці да Балтыйскага мора?**

*а) Лясной, б) Нараўкай, в) Нурцом.*

**3. Якое мястэчка Падляшша ў XVI стагоддзі называлася „портам горада Бельск”?**

*а) Браньск, б) Кляшчэлі, в) Нарва.*

**4. Ад якой ракі ўзяў назву горад Саколка?**

*а) ад Нетупы, б) ад Паганіцы, в) ад Саколды.*

Адказы дасылайце да 22 красавіка 2012 года (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 13:** Дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы — „Роднае слова” (в); лаўрэатам раённых (і цэнтральных) этапаў „Роднага слова” сярод гімназістаў стаў Куба Андрацкі з Саколкі (в); сярод двух узнагароджаных твораў былі вершы Міры Лукшы (б); „Жывінкі з глыбінкі” ды „Дзяўчынка і хмарка” былі напісаны для „Зоркі” (а). Узнагароды, кніжкі „Жывінкі з глыбінкі”, выйгралі Оля Галёнка з Дубіч-Царкоўных, Адрыян Бугвін і Каміля Навіцкая з Арэшкава. Віншуем!

**ЗОРКА**



Фота Ганны Кандрацюк

Куратар Ежы Кішкель віншуе Агнешку Петручук з Нарвы — лаўрэатку прадметнага конкурсу

# Вершы Віктара Шведа

## Замест мандата

Паліцыянт злавіў раптам паню
На чырвоным на скрыжаванні.
А зрабіла такую крамолу
Паланістка з яго даўняй школы.

— Не ўляплю сёння пані мандата,
Прашу ехаць спакойна дахаты.
Сто разоў напісаць рукі следам:
„На чырвоным святле не праеду!”

## Вяснушкі

У люстра глянула Тамара —
Вяснушкі ўбачыла на твары.
Здалося, што і носік, вушкі
Абселі гэтыя вяснушкі.

А вясне цёплай ужо зранку
Песні, цудоўныя вяснянкі,
Пяюць вясны чароўнай служкі,
Без стомы птушкі-весялушкі.

*(падляшская легенда)*

# Пра дзяўчыну, якая дзікай грушкай стала!

Як свет шырокі — усюды спяваюць, апавядаюць у нас адну песнюлегенду. Вы таксама зможаце яе пачуць, калі ў цішы прысядзеце ля раскідзістай грушы-дзічкі, што самотна расце ў полі на мяжы. Праўда, тых грушак засталося ўжо зусім мала, але той, хто шукае, заўсёды знойдзе...

Спачатку, калі ў полі заіграюць-зазвіняць жаваранкі, вы зірнеце ў блакітнае неба і забудзеце пра ўсё на свеце. Раптам скалыхнуцца галінкі дрэва і вы пачуеце мілагучныя галасы. І вы пачуеце старую легенду, якую ад вякоў напявае вецер.



Гэтая гісторыя здарылася ў прыпушчанскай вёсцы Камень, у час, калі забіралі маладых мужчын у царскую армію. Пра такога рэкрута ў вёсцы гаварылі як пра памерлага:

— Быў хлопец і прапаў!

Служба ў царскай арміі цягнулася чвэрць веку, многія мужчыны гінулі ў баі, паміралі ад хвароб або зусім не вярталіся на радзіму. А ўжо найгорш, калі ў салдаты забіралі жанатых і абведзеных сямейкай...

У Купрыяна была маладая жонка і сынок Герасім. Калі яго забіралі ў войска, плакала ўся сям’я, цэлая вёска. А маладая жонка проста не знаходзіла сабе месца. Як жа цяпер ёй адной гадаваць дзіця, апрацоўваць зямлю, ездзіць у лес за драўнінай. Ды яшчэ ў хаце злосная свякроў, якая толькі ляжала на печы і праклінала ўвесь свет. Яна не любіла нявесткі. І вінаваціла дзяўчыну за ўсе свае няшчасці, за свае хваробы і нястачы ды патрату адзінага сына. Параска цярпела яе знявагі. Пасля ночы яна звычайна ішла ў поле і завіхалася каля ільну. Увесь дзень яна малілася і плакала. У адно лета жанчына не вярнулася дамоў. Людзі казалі, што здзервянела ад жалю і крыўды ў сваім полі. Праўда, на мяжы, дзе цвіў блакітны лён, за дзень вырасла дзікая грушка.

Кожны, хто ішоў той дарогай, заплакаў і перажагнаўся. Людзі ведалі незайздросны лёс салдацкай жонкі...

Нечакана, пасля дзевяці месяцаў вярнуўся з арміі Купрыян. Яго маці доўга апавядала пра хваробы і смерць Параскі. Нібыта, яна нічога не рабіла, а толькі гуляла ў карчме і дзякавала небу за свабоду. Вось і памерла ад блуду і гульбішчаў. У той момант чамусьці плакаў сынок Герасімка.

— Вазьмі сякерку і зрубай грушу, што вырасла на нашым полі, — загадала аднойчы маці.

— А каму яна мяшае, хай расце, — здзівіўся сын.

— Не брашы, бяры сякерку і ідзі ў поле...

Купрыян настрыў сякеру і падаўся да грушкі. Па дарозе ён думаў пра сваю „няверную” жонку і з-за гэтага яму хацелася памерці. На месцы сустрэла яго дзіва. Калі ён замахнуўся сякерай на грушку, дрэўца задрыжэла. Калі ўдарыў — заплакала. І пачало спяваць-галасіць голасам яго жонкі. Дрэва расказала пра здзекі і пакуты, якія сустрэлі Параску з боку свякрухі. Ад пачутага ў Купрыяна разарвалася сэрца. І ён як стаяў на месцы, ад жаху і жалю да маці стаў каменем-валуном.

Людзі кажуць, што часам апоўначы, на светлым тыдні пасля Вялікадня, Грушка і Камень ператвараюцца ў мужа і жонку. Разам з маладымі — дзіцятка, якое плача. Калісь ва ўрочышчы Бярэзаўка, дзе расла грушка-дзічка, стаяў дубовы крыж. А сёння ў тым месцы засталіся адны камяні.

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Алесь з балота




Кальян можна запаліць, „Кальяна” можна таксама паслухаць. Прапаную гэты другі варыянт, асабліва таму, што гурт „Кальян” вельмі блізкі нам і ад нас.

Алеся Дзянісава, лідара гурту „Кальян”, пазнала я шмат гадоў таму, калі фестываль „Басовішча” быў перш за ўсё рок-фестывалем і сярод выступоўцаў пераважалі рокмены ці панк-выканаўцы. Тады вялікім гітом былі выступы такіх зорак як гарадзенскія „Кальян” ці „Deviation” (зразумела, што самай вялікай зоркай быў тады „N.R.M”). „Кальян” — вельмі ідэйны гурт, чаго сёння часта не стае маладым гуртам. Ідэалам, на маю думку, з’яўляецца стаўленне Алеся Дзянісава і яго сяброў: гаварыць у музыцы пра важныя грамадскія пытанні, калі трэба загаварыць аб правах чалавека, калі трэба звярнуцца ў бок гісторыі.

„Кальян” заўсёды ўспрымаўся як антырэжымны гурт, жорсткі, панкаўскі. З часам і гэты вобраз злёгку памяняўся, чаго выдатным, але і прыгожым доказам быў акустычны канцэрт, які музыкі падаравалі пры нагодзе цыкла „Tuzin. Unplugged”. Гэта аднак не ўсё. Алесь Дзянісаў усё ж такі пасля гадоў паменшанай актыўнасці апошнім часам паказвае, што музыка для яго — асноўная ідэя і шлях жыцця. Не так даўно ў Бельскай ратушы выступіў з сяброўкай-скрыпачкай на вечарыне, прысвечанай памяці беларускай настаўніцы і паэтэсы Марылькі Базылюк, а цяпер прэзентуюцца ў поўным складзе (будзе каля шасці асоб) жыхарам Менска і Гародні.

— Гэта зусім цудоўная з’ява, — сказала мне пра гурт гарадзенская журналістка Хрысціна Марчук. — Яны звяртаюцца да фолькі ў зусім новы, цікавы спосаб.

Прытым гурт вельмі лірычны, бо чуем песні на словы беларускіх паэтаў, чуем скрыпку, баян, гітары, прыемную акустыку, толькі назва адсылае нас у літаратуру. Прадстаўляю гурт „Людзі на балоце”! Растлумачу, што пачаў ён сваю жыццядзейнасць вясной 2011 г. як акустычны праект гурту „Кальян”. Аднак розніца рэпертуару выклікала патрэбу адмежавацца і стварыць цалкам незалежную каманду.

Захацелася мне паслухаць і пабачыць іх канцэрт, таму, магчыма, падзялюся з вамі сваімі ўражаннямі.

**i_basovka@o2.pl**



Сяброўкі. Нютка Карнілюк і Натáлька Савіцкая

Фота Ганны Кандрацюк

# Польска-беларуская крыжаванка № 17

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 13:**

**Імя, стрэл, хто, вой, Ас, абой, буслянка, ластаўка, каза, калена. Жаба, бусел, хвост, стойла, той, яўка, Янка, каза, ласка, Ас.**

**Узнагароды, коміксы „Прыгоды Супер Піфа”, выйгралі Эва Саковіч з Нараўкі, Юстына Якубюк з Бельска-Падляшскага, Оля Галёнка з Дубіч-Царкоўных, Агата Беразавец з Нарвы, Мілена Сямёнчык з Дубін. Віншуем!**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kod / Doza | | Zapałka | | Marzenie | Świat / Zwierz | | | Chór / Komplet |
| | | | | Dzwon | | | | |
| Dar / Lala | | | | Wiara / Tęcza | | | | |
| | Powiat / Jawa | | | | | | But | |
| | | | Jar / Świerk | | | Banał | | |
| | Las | | | | Bór / Kort | | | |
| | Klekot | | | | | | | Bas |
| Ukłon | | | | | | | | |
| Szczyt / Jaki? | | Ozdoba | | | | | | |
| | | | Atlas | | | | | |




■ Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Гарэлі Студзянкі

— Наконт гэтых крыжоў, што стаяць перад Студзянкамі, праваслаўнага і каталіцкага — дык гэта так як і ў іншых вёсках. Жывуць ад вякоў праваслаўныя і каталікі разам. І нармальна жывуць. Але час розны быў, — кажа Зоя Краўчук, у дзявоцтве Гімік.

Васількаўская гміна распалажана на поўнач ад Беластока, на Беластоцкім узвышшы. Сядзібай гміны з'яўляецца распалажаны над Супраслю горад Васількаў. Праз гміну прабягаюць дзве краёвыя дарогі, што кіруюцца да пагранпераходаў № 18 Кузніца-Беластоцкая і № 19 — Беласток — Аўгустаў — Агароднікі ды чыгуначная лінія міжнароднага значэння Варшава — Пецярбург. Васількаўская гміна гэта перш за ўсё лясныя абшары і каштоўныя месцы ў прыродным плане. Аж 80% яе абшару займае Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы і буферная паркавая зона. З культурных помнікаў найбольш тут вядомая — Святая Вада — распалажаная непадалёка Васількава, якая сваю назву абавязана цудадзенай крынічцы. Культ сягае пачаткаў XVIII ст., калі сляпому шляхціцу, прамыўшаму вочы вадой гэтай крынічкі, вярнуўся зрок. У падзяцы за гэты цуд узвёў ён тут капліцу. Святая Вада стала месцам культу праваслаўных і ўніятаў, а пасля католікаў.

У вёску Студзянкі, адну з найбольшых у гміне, можна дабрацца на ровары, або на аўтобусе ПКС на шляху Беласток — Студзянкі. Праз вёску пралягае некалькі турыстычных і веласіпедных маршрутаў.

Студзянкі — сем кіламетраў

## у правы бок Васількава.

Дваццаць дзве вуліцы, 1010 жыхароў. Існуе ад 450 гадоў. Сучасная школа на сто вучняў плюс вялікі дзіцячы сад. І дзяцей тут большае з году ў год. На адной Васількаўскай вуліцы (тры прыпынкі ПКС) амаль у кожнай хаце — прадпрыемства: хто сталяр, хто каменшчык, хто кравец... — а кожны ахвотны спонсар мерапрыемства, ладжанага ў вёсцы. „Зойдзеш спытацца, ці не пасобіць у арганізацыі, дык яшчэ рот не адчыніш, а ўжо абяцаюць" — кажа солтысіха Яўгенія Гурко, спявачка калектыву „Мальвянкі". У Студзянках два салэцтвы, кіруюць імі якраз Яўгенія Гурко і Іаланта Шыманская.

Рыхтаваліся вялікія інвестыцыі ў Студзянках. Хацелі збудаваць 50-гектарную жвіроўню на ўскраіне Кнышынскай пушчы, якраз у Студзянках.

— Мы тут жвіроўні не хочам, — пярэчыць Яўгенія Гурко. — Мы ў буфернай зоне Кнышынскай пушчы і ў абшары, ахопленым праграмай „Натура-2000". Калі хтосьці без нашага ведама купіць тут зямлю, дык няхай тут прыгожы пасёлак будуе, а не кар'ер! І нашы гмінныя дарогі раз'язджаюць грузавікі, што возяць шчэбень, а галоўным чынам тую дарогу, што спалучае нашу вёску са светам — некалькі кіламетраў раз'езджанага асфальту вядучага праз Дамброўкі ў Васількаў. А ўсё дзякуючы міністру папярэдняга ўрада Яну Шышку. Каб палегчыць пабудову Васількаўскай кальцавой дарогі, зменшыў ён без кансультацыі з навукоўцамі абшар „Натура-2000" і Кнышынскай пушчы. Такім чынам ахову страцілі Студзянкі, якія апынуліся 5 кіламетраў ад тае плошчы, якую ахоплівае абшар „Натура-2000". Еўрапейская камісія загадала той абшар вярнуць, ды ў „акенца", пакуль усё афармілі, трапіў інвестар. Ваяводскі геолаг сказаў: „Я займаюся толькі геалогіяй. Інвестар прад'явіў грамадскае рашэнне і ўзгадненне. І я не мог яму адмовіць"...

І выдумалі яшчэ найбольш сучаснае прадпрыемства апрацоўкі смецця ў рэгіёне. У 2011 г. умурававалі краевугольны камень пад пабудову Цэнтра інавацыйнай гаспадаркі адходамі. Інвестарам было беластоцкае прадпрыемства „Чысцёх". Толькі 10 працэнтаў смецця мела знайсці месца на звалцы. Апошнія 90 працэнтаў адходаў у форме кампосту, сыравіны і паліва мела трапіць у агародніцтва і лясы, да прамысловасці і на цэпластанцыі. Новым прадпрыемствам цешыліся самаўрадаўцы — працу там мела знайсці каля 100 асоб, а прынамсі чатыры акалічныя гміны мелі б вырашаны праблемы, звязаныя з адходамі. Кошт інвестыцыі гэта 55 мільёнаў зло-



тых. Прадпрыемства мела перарабляць 170 тысяч тон адходаў у год. Фірма „Чысцёх" мае дамовы падпісаныя на прыняцце 100 тысяч тон паліва з адкідаў. Зрабілі. Згарэла ў 2012 годзе.

Ды людзі са Студзянак могуць цяпер жыць някепска.

Аляксей Гурко: „Шмат што тут змянілася. Асфальт ёсць, вада ёсць, мае быць водаправод. Дзякуючы дапамозе Еўрасаюза і бурмістра Васількава маем вялікую святліцу. Узнікла яна ў будынку старога пажарнага дэпо, да якога дабудавалі паддашак.

— Гэта месца, якое інтэгруе жыхароў Студзянак, — кажа солтыска Яўгенія. — Будзе служыць на камуніі, хрысціны, вяселлі.

— Вёска вялікая, ды кожны сядзіць хутчэй дома, а мы стараемся арганізаваць імрэзы, — дадае Іаланта Шыманская.. — Вось наша старажытная новая школа. Яе збудавалі ў 1886 годзе. Гэта будынак з саліднай чырвонай цэглы. У 2002 г. адрамантавалі яго ды дабудавалі новую частку з трыма класамі і спартзалай. Маем Гару крыжоў з двума крыжамі — адзін з іх з 1868, другі з 1993 года. На табліцы напісана: *Od Powietrza, Głodu, Ognia i Wojny Racz Zachować Nas Panie.*

У 1568 годзе, калі старостам Васількава стаў Іеў Брэтфус, а пробашчам каталіцкай парафіі быў Мікалай Камароўскі, на ўсход ад Васількава вызначаны быў старасцінскі фальварак і звязаныя ім вёскі: Студзянка і Дамброўка. Праўдападобна ў вёсцы Студзянка (пасля Студзянкі) пражывала войска гетмана літоўскага Хадкевіча, які сядзеў у Супраслі. У той час усе жыхары Студзянак былі ўніятамі. У час І сусветнай вайны шмат жыхароў Студзянак апынулася ў бежанстве ў Расіі, шмат ва ўцёках перад польскім падполлем ад 1944 года з'ехала ў СССР або было саслана. Цяпер у першай частцы вёскі большасць жыхароў праваслаўнага веравызнання і размаўляе на беларускім дыялекце, а другая, галоўным чынам католікі, размаўляе папольску.

## Лідзе забілі пяцёх братоў

Ідзем з Аняй Любэцкай па дарозе ў Студзянкі, вёску, дзе жыве яе бабуля Ліда з роду Хомкаў з мужам сваім Юзафам (памёр нядаўна), праваслаўныя. Што тут праваслаўныя жывуць, пазнаць можна па крыжы, што стаіць побач каталіцкага на скрыжаванні перад вёскай. На крыжы напісана: „Госпадзе, сахрані нас ад усякага зла: землятрусу, патопу, агню, мяча, між намі нянавісці і спасі Сваёю благадаццю".

Бабуля Ліда Лазэўская ў „Ніву" са сваёй крыўдай прыйшла ўжо каля паўсотні гадоў таму. Усенька расказаць хацела, паказаць дакументы, здымкі. Бо такое гора спаткала яе як не адну тутэйшую жанчыну, сястру, дачку. Ды ніўскі рэдактар сказаў: „Час яшчэ не той. Хочаш жыць? То пакінь пакуль". А калі той час сказаць праўду? Пераглядаем здымкі Лідзіных дзяцей: Генік — 1948 года нараджэння, Леаніла — 1946. Усе раз'ехаліся, пайшлі ў розныя веры.

— А ці хто тут жыве, — пытаецца другая ўнучка Ліды, Ева Саковіч, — з тых, хто забіваў тваіх, бабцю, братоў?

— Не, ні аднаго няма ў жывых. А ад чаго ўсё тое пайшло? Ад таго, што мы — праваслаўныя. — Бабуля паказвае кнігу, дзе на старонцы сотай пазначаны імёны яе пяцёх братоў, якіх пералавілі ў розных мясцовасцях Беласточчыны і забілі чатырох 17 мая 1945 года — Костуся (1924 года нараджэння), Янку (1913), Пятра (1911), Вінцука (1909) ды 3 жніўня Аляксандра (1908), пасля росшукаў — аж у Дамброўках.

## Выгнаць са свае хаты

Пішуць гісторыкі:

Для таго, каб агітаваць беларусаў на перасяленне ўпаўнаважаныя ў прапагандысцкіх мэтах перавозілі ў Беларусь усю маёмасць найбольш аўтарытэтных і паважаных грамадзян. Так, усе беларусы вёскі Студзянкі Беластоцкага павета ў колькасці 25 сямей адмовіліся пераязджаць у БССР, спасылаючыся на тое, што паважаны ў вёсцы селянін А. Гімік не збіраецца перасяляцца ў Беларусь. Пасля „доўгіх і ўпартых" гутарак упаўнаважаных з А. Гімікам ён пагадзіўся пераехаць, аднак паставіў умову, каб яму перавезлі дом. Як выключэнне яму гэта было зроблена. У выніку разам з А. Гімікам у Беларусь выехалі ўсе сяляне гэтай вёскі. Аднак, як падкрэслівалі ўпаўнаважаныя, „такія выключэнні рабіліся толькі асобным грамадзянам".

21 кастрычніка 1945 года банда са 150 чалавек акружыла беларускую вёску Студзянкі. Пры гэтым збілі насельніцтва, забралі ў сялян, падрыхтаваных да эвакуацыі, 23 кані, 15 павозак, некалькі галоў буйной рагатай і дробную жывёлу. Галоўнай мэтай падполля пры нападах на беларускія вёскі з'яўлялася задача прымусіць беларусаў выехаць з Польшчы.

## Зараз пасля вайны

Зоя з Гімікаў Краўчукова ўспамінае тэкст у „Ніве" (№ 1 ад 07.01.2007) пра трагедыю сям'і Хомкаў родам з падвасількаўскага хутара Панурага. Ведае і Ліду Лазэўскую, іхнюю сястру, і яе дзяцей ды ўнукаў. Ліда Лазэўская — іхняя суседка ў Студзянках, а адзін з забітых быў мужам Зоінай сястры; наймалодшы, Янка. Вельмі спакойны чалавек. Хто да таго прычыніўся? Пасля Шыманскі, што жыве ў Завулку, у Гаўрылюка прасіў прабачэння. Братоў Хомкаў палавілі па вёсках, каб адразу ўсіх спляжыць. Кожны займаўся рознымі справамі, адзін трачаваў, другі быў цеслем... А ўжо Янка быў такі спакойны, да нічога не ўключаўся, да ніякай палітыкі. Пабралі іх усіх таму, што мяшаў ім хутар Панурае. А там у ваколіцы хаваліся тыя героі, але гэта нармальная банда была. У Панурым дзве хаты стаялі, а пару кіламетраў ад іх база была. У Ажынніку быў іхні адзін, мабыць, афіцэр, ляснічы. На гэтых тэрэнах — дзе Чорная-Беластоцкая, Касцельная, у бок Саколкі, у лясах — там усё гэта трымалася. І ў Гараднянцы даўжэйшы час трымаліся, з імі была мая будучая настаўніца. Ды Хомкаў свае, тутэйшыя выдалі — баяліся, каб Хомкі не выказалі, дзе яны ёсць — а там вялікая група хавалася пад хутарам Панурае. Хлопцы ішлі з работы дахаты, бо хадзілі працаваць па вёсках, дамы ставілі, бо ж людзі адбудоўваліся пасля вайны — тады іх пералавілі. Завялі ў лясок... Янка жыў тут, у Студзянках. Не было спакайнейшага, памяркоўнейшага чалавека. Нашы хаты стаялі побач. Перабілі іх, каб сведкаў не было. У Студзянках было шмат такіх, што процяў улады былі,

працяг ☞ 9

# Слядамі валакальнікаў Сакольшчыны

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

*Янаўшчына. Уладзіслаў адчыніў мне дзверы і хутка пабег на ложак, засцелены кажухом. Трымаў рукой шматку пры губах — гэта ў першую хвіліну здалося мне настолькі дзіўным, што я аж падскочыла ўгару ад пераляку. Уладзіслаў, не ведаю чаму, таксама перапалохаўся мяне. Аднак дазволіў увайсці ў хату.*

Хаця хатка звонку выглядала на зусім невялікую, кухня была прасторная. Было ў яе месца для печкі, стала, крэслаў, дзвюх посудных шафаў і ложка, які стаяў пры цёплым слупку-сцяноўцы.

— А чаму вы не ўваходзілі? Я не хацеў падыходзіць да дзвярэй, бо холад, а я хворы!

Уладзіслаў дазволіў мне сесці на вымошчаным ложку. Згэтуль праз акно было відаць амаль цэлы падворак, на якім не было нічога асаблівага. Аднак Уладзіслаў, размаўляючы са мною, амаль увесь час глядзеў у акно, быццам бы баяўся, што праз хвіліну цяля ўцячэ з хлява або каршак ухопіць курыцу. Штосьці мусіць здарыцца — то ж немагчыма, каб за ўвесь дзень толькі мянялася надвор'е! А адна жывёла, якая яшчэ засталася васьмідзесяцігадоваму гаспадару, гэта два сабакі, якіх я, на шчасце, не сустрэла.

— Хочаш гаварыць аб каталіцкіх святах? Я думаў што ты праваслаўная: гаворыш па-свойму і такая маладая!

Уладзіслаў, калі смяяўся, выглядаў як дзядуля з малюнкаў у падручніку для першага класа пачатковай школы, які надрукавалі яшчэ ў час камунізму. Нагавіцы з доўгімі шлейкамі, цёплы світар зашпілены пры самой едцы і тыя вочы, якія ўсяму здзіўляліся. Хацелася ж гаварыць з ім і больш даведацца аб гэтым чалавеку.



*II*

Калі прыходзіў Вялікдзень, Уладзіслаў абавязкова з раніцы ішоў на рэзурэкцыю (велікодную ютрань).

— Бацька падчапляў коней да фурманкі і ехалі мы ў касцёл.

Хаця ў народзе захоўваецца традыцыя чування ўсю ноч з Вялікай суботы на нядзелю пры грабніцы Хрыста, Уладзіслаў яе не падтрымліваў.

— Касцёл быў даўней ажно ў Саколцы, так што немагчыма было там сядзець. Але мы заўсёды ехалі раней на рэзурэкцыю, каб яшчэ заспяваць „Марыя Магдалена”.

Пасля вяртання з касцёла, абавязкова перад снеданнем, самы галоўны гаспадар ішоў свяціць гумно, склеп ды іншыя будынкі, а таксама жывёлу. Гэта гарантавала шчасце. Пасвяціць трэба было таксама ўсіх членаў сям'і. Пасля таго можна было сесці за стол, дзе стаяла ўжо ежа, асвечаная ў Вялікую суботу. Кожны з кожным дзяліўся яйкам і тады ўжо можна было прыносіць раней падрыхтаваныя стравы. У сям'і Уладзіслава гэта быў пірог, аўсяны кісель, мяса, бігас і абавязкова бульба.

— Калі сям'я больш заможная, тады крыху лепшае спраўлялі снеданне. Напрыклад, калолі яшчэ невялікае парася, выкідалі ўсё з сярэдзіны і пяклі цэлае ў хлебнай печы. Напэўна ніхто галодны ад стала не адышоў!

Валокалі на першы дзень святаў. Кавалеры хадзілі ад хаты да хаты з песняй і кошыкам. Абавязкова было чымсьці іх абдорыць.

— Калі ў якойсьці хаце нічога нам не далі, тады мы спявалі толькі такую песню, даволі брыдкую… Так што не буду паўтараць!.

У камандзе, з якою валокаў Уладзіслаў, заўсёды быў адзін хлопец, які ўмеў іграць на гармоніку. Спявалі галоўным чынам касцельныя песні: „Wesoły nam dziś dzień nastał, przez Twe święte zmartwychwstanie”.

— Калі гаспадар, да якога зайшлі, сказаў, каб спяваць, тады мы спявалі. Яшчэ і павіншавалі:

*Ваша курачка чубаценька,*
*На яечка багаценька!*
*Дайце каўбасу — і тую панясу*
*Дайце пару — пяць — то буду ваш зяць!*

— Больш не скажу, бо ўжо не памятаю, але многа гэтага было! І потым ужо чакалі, аж накладуць нам у кошык.

Хлопцы валокалі не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх. Мэтай з'яўляліся Ліпіны, у якіх жылі ў той час прыгожыя дзяўчаты. Згэтуль Уладзіслаў вяртаўся толькі раніцай у святочны панядзелак.

*III*

Хадароўка. Паводле Юзафа — жыхара вёскі — да дзяўчат прыходзілі яшчэ крыху раней, бо ў Пальмавую нядзелю.

— Хлопцы калісь залятылі з раніцы да дзяўчат, і калі яшчэ яны спалі, білі іх вярбовай розгай па коўдры і прыгаварвалі:

*Вярба б'е, не заб'е,*
*За тыдзень вялікі дзень,*
*За шэсць дні, за шэсць ночы —*
*Дачакаем Вельканоцы!*

— Я і цяпер сваіх у хаце з раніцы б'ю ў Пальмавую нядзелю.

Юзаф ніколі не выдумваў, ішоў у злішкі ці гулку, зрываў дзве-тры вярбовыя галінкі і нёс у касцёл. Абавязкова раней гэтымі ж самымі галінкамі біў па коўдры спячых яшчэ сямейнікаў.

Юзаф з Хадароўкі таксама, як Уладзіслаў з Янаўшчыны, са сваімі сябрамі з вёскі валокалі ў першы дзень святаў. Калі зайшлі ў хату, у якой жыла маладая жанчына, спявалі канапельку.

*Пасла паванькі, паванькі хадзілі,*
*Пёранькі губілі, яна збірала,*
*Да вянушка клала, а з вянушка брала,*
*На Дунай пускала.*

— Потым узбурыліся бурныя вятры, парвалі той вянушак… і далей не памятаю. Шмат строф было ў гэтай песні.

Людзі ўзамен за песню давалі валакальнікам яйкі, пірагі, часам грошы, за якія хлопцы куплялі дзяўчатам у краме шакалад.

*IV*

Як Сакольшчына вялікая, здаецца, што ўжо ў ніводнай вёсцы не валокаюць на Вялікдзень. Прынамсі мне не ўдалося высачыць маладых людзей, якія спантанна і без дапамогі мясцовых аніматараў культуры працягваюць гэтую шматвяковую традыцыю. Цяжка ўжо таксама знайсці сярод старэйшых людзей тых, якія памятаюць яшчэ цэлыя тэксты хаця б адной валакальнай песні. Я, напэўна, ахвотна ўкінула б некалькі яек у кошык хлопцам, якія заспявалі б мне адну цэлую канапельку!

---

8 ☞ працяг шмат хто да банды належаў. Уначы нармальна хадзілі, хлявы акрадалі — кожны на штабу меў усё замкнёнае. Грошы адымалі. Коней кралі. Жылі бандыты ў Завулках, дык перанесліся бліжэй, у пустую хату тых, хто выехаў у Расію. Хата харошая. Пасля перасяліліся ў Беласток, жывуць насупраць гарадскога могільніка. Былі такія, хто хацеў жыць спакойна, дык у „палітыку” не ўключаўся, не глядзеў, хто там праваслаўны, ці хто каталік. Тыя абраблялі кожнага, не глядзелі хто ён такі. А ты ведаеш, што пасля вайны ва ўладах Беластока было больш усіх тых былых ваяроў, чым іншых? Прытварыліся. Поўна іх усюды сядзела. Застрашыць хацелі, каб ціха-ша было. Цяпер то кажуць, як „вальчылі”, як ганарова было, дык аж халера бярэ. Можна слухаць, ды пражылося і бачылася як ваявалі і з кім. Якія змагары!? Канакрады!

Гісторыя дакранула і Зою Гімік, як і ўсіх. У Студзянках жыве адно яе брат Анатоль, яго дочкі ўжо ў Беластоку. Вывезлі іх як сям'ю „кулакоў” у 1941 годзе ўсю, апрача малое Зоі, якая ў той час забавілася ў бабулі ў Борках. У саракавым годзе бацьку судзілі ў Беластоку. Забралі таксама дарослую дачку з мужам, былым вайсковым, і двума малымі дзяцьмі, сваіх, апрача Зоі, яшчэ трое. Наймалодшаму Зоінаму брату было няцэлыя два месяцы. Усё дзякуючы добрым людзям. Бацька ад 14 гадоў мусіў гаспадарыць, бо памёр ягоны бацька. А быў проста „вол рабочы”. За работай свету не бачыў, спаў пару гадзін. На тыя часы гаспадарка Юльяна Гіміка была на першым месцы. А тыя, што прыйшлі ў 1939 годзе, не хацелі рабіць і быў ім нявыгадны. І краму вясковую заснаваў. За агародам паставілі шпіхер калгасны. Чужое „багацце” ў вочы калола. А хто ў калгас ішоў? Той, каму рабіць не хацелася, бо дзве левыя рукі. Казаў Юльян Гімік швагру: „Куды ты пхаешся, з кім? Будзеш на іх рабіць? Маеш гэтую зямлю і рабі сваё”. Тое брату казаў, а брат быў ва „ўладзах”. І адразу пайшло: вораг! Вярнуліся ў 1946 годзе, усе жывыя, хоць без бацькі. Бацька вярнуўся аж у 1956 годзе. У той час я ўжо закончыла ліцэй — ездзіла ў Варшаву афармляць бацьку дакумент. І як прыехаў, дык апяць адбудаваўся нанова. Але што пражылі, то пражылі.

## Што робіцца

— Як што ў нас цяпер робіцца, пытайся ў Міраславы Бездзель, — сказала мне бабуля Лідзія Лазэўская, якая не ў змозе ісці на мерапрыемствы вёскі, якія ладзяць солтыські і пані Мірка.

Мірка Бездзель — заснавальніца згуртавання Таварыства распаўсюджвання культуры, — гонар усяе вёскі. Усё вакол яе круціцца. Мне прозвішча Міраславы Бездзель асацыюецца ўжо з дзейнасцю супрасльскага згуртавання „Uroczysko”. Я больш займаюся праграмнымі мерапрыемствамі, — кажа спадарыня Мірка, радная, уласніца таксама з мужам аргатурыстычнай гаспадаркі. — Але непераўзыдзеныя нашы пані солтысіхі. Без іх нічога не было б! Пакуль сапраўднага дома культуры ў нас няма. Маем месца, дзе сустракаюцца моладзь і старэйшыя. Мы стараемся, каб вёска была актыўная, хочам мяняць стэрэатыпы: каб людзі ведалі, што пры дэмакратыі кожны можа вырашаць пра свае справы. Заснавалі мы свой футбольны клуб „Твердза”. Наша таварыства займаецца ўсімі аспектамі грамадскага жыцця — экалогіяй, культурай, грамадскай дзейнасцю, экагалічнай і рэгіянальнай адукацыяй дзяцей. Зрэалізавалі мы шмат праектаў. У вёсцы маем дзіцячы ансамбль „Пламеньчыкі” і фальклорны „Мальвянкі”…

Арсень Лабовіч, беларускі тэатразнавец, які 28 верасня 1923 года нарадзіўся ў вёсцы Студзянкі:

— Родная вёска Студзянкі ніколі не забываецца. Я там, хоць і не так часта, але бываю. Там жывуць: мой пляменнік Аляксандр Лабовіч — сын брата Сяргея, Арсень Гаўрылюк — сын сястры Любы, а таксама яго родная сястра Ірына Шутко. У Беластоку ж жыве пляменніца Марыя, па мужу Харытон. А ў Варшаве пражывае яшчэ адзін пляменнік — Яўген Лабовіч (палкоўнік у адстаўцы, аўтаінжынер) і шмат іншых блізкіх і далёкіх сваякоў.

— Праваслаўных і католікаў у нас пароўну, — кажа солтыска Іаланта Шыманская. — І цяпер няма ніякіх праблем. Я з дзеда-прадзеда студзянская. Бачу, што вёска развіваецца. Трэба дакласціся да гэтага, як хто ўмее. Каб не была гэта толькі спальня Беластока.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Імёны і помнікі Свіслацкай зямлі

**Нядаўна паштальёнка прынесла мне дамоў тры краязнаўчыя кнігі з розных куткоў Беларусі. Ад Міхася Карпечанкі з Бялынічаў атрымаў цудоўны краязнаўчы энцыклапедычны даведнік „Бялыніччына”. Барыс Брацук з Маладзечаншчыны даслаў сваю першую краязнаўчую кнігу „Дарагія мае землякі...”, куды ўвайшлі артыкулы аўтара пра людзей, якія ўклалі свой унёсак у гісторыю Беларусі. Са Свіслаччыны з аўтографам атрымаў краязнаўчы даведнік ад яго ўкладальніка Мікалая Пакутніка „Імёны і гістарычныя помнікі Свіслацкай зямлі”. Пра яго і хочацца сказаць пару слоў, тым больш, што Свіслацкая зямля непарыўна звязана з Беласточчынай.**


Аўтар Мікалай Пакутнік дае аўтографы

Задумка выдання арыгінальная: пад адну вокладку ўкладальнік сабраў усіх сваіх знакамітых землякоў і тых людзей, лёс якіх быў звязаны са Свіслаччынай. Сюды ўвайшлі і помнікі Свіслацкай зямлі. Як паведамляе Мікалай Пакутнік, найбольш шкоды Свіслацкай зямлі, яе помнікам, людзям нанеслі войны са шведамі, расейцамі, французамі і немцамі. Але, напрыклад, захаваліся архітэктурныя помнікі — гэта цэрквы ў вёсках Грынявічы і Дабраволя, Міхайлаўскі касцёл у Поразаве і іншыя. Тая ж царква св. Іаана ў цэнтры вёскі Дабраволя была пабудавана ў 1840 годзе з дрэва, трохзрубная, на падмурку. Гэта помнік дойлядства. А царква імя св. праведнай Ганны ў вёсцы Харашэвічы з'явілася ажно ў 1790 годзе...

Згадвае Мікалай Пакутнік і пра архітэктурны комплекс XIX-XX стагоддзяў, дзе месцілася Свіслацкая гімназія. Гімназія ў Свіслачы была заснавана на сродкі графа Вінцэнта Тышкевіча. У галоўным корпусе было 6 лекцыйных залаў, 2 кабінеты, капліца, якая адначасова выкарыстоўвалася і як актавая зала, бібліятэка, 11 пакояў, 2 кухні, 2 кладоўкі. Абапал галоўнага корпуса тарцом да яго былі пабудаваны 2 флігелі. У флігелях месціліся пакоі гімназістаў і кватэры настаўнікаў. У глыбіні пляца насупраць галоўнага корпуса была мураваная стайня і склады... Пасля закрыцця гімназіі ў будынках знаходзілася настаўніцкая семінарыя. Але падчас Другой сусветнай вайны галоўны корпус быў пашкоджаны, а потым людзі будынак разабралі на цэглу, а на яго месцы была збудавана раённая бальніца, пры будаўніцтве якой быў знішчаны левы флігель. Захаваўся правы флігель, але пасля будаўніцтва бальніцы ён страціў сваё значэнне ў фармаванні архітэктурнага асяроддзя Свіслачы. У 1979 годзе на будынку была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда на ўшанаванне знакамітых людзей, якія там працавалі і вучыліся. Наогул, пра Свіслацкую гімназію даўно пара напісаць і выдаць добрую кнігу, кнігу пра настаўнікаў, гімназістаў, пра той час, калі існавала там навучальная ўстанова. А існавала яна ў Свіслачы з 1804 да 1865 года. Ды і пра Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1876-1921) таксама варта зрабіць добрую манаграфію. Але хто гэта і калі адужае? Таму свіслацкім краязнаўцам і гісторыкам, шчыра кажучы, работы непачаты край.

У краязнаўчым даведніку Мікалая Пакутніка ёсць згадкі пра асоб, далёка не пра ўсіх, якія атрымлівалі адукацыю ў гімназіі і настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, пра некаторых выкладчыкаў, якія там працавалі. Напрыклад, нямецкі славіст Рудольф Абіхт (1850-1921) у 1917-1918 гадах у Свіслацкай настаўніцкай семінарыі выкладаў беларускую мову. Дарэчы, Рудольф Абіхт з'яўляецца аўтарам працы „Паказальнік крыніц Супрасльскага рукапісу” (1893-1898). Ці Адольф Белакоз (1826-1895), які таксама вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, а ў пачатку 1860-х гадоў жыў у Беластоку, даваў урокі музыкі. Надрукаваў разам з Браніславам Шварцэ ў Беластоцкай падпольнай друкарні некалькі выданняў, у тым ліку і „Гутарку старога дзеда”. Пасля паўстання 1863 года быў высланы ў Сібір. Няпросты лёс быў і Эдуарда Гойліка (1914-1979). Ён вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Ваяваў. Працаваў на факультэце педагогікі Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. У Свіслацкай настаўніцкай семінарыі вучыліся і нашанівец Янук Дарашкевіч (1890-1943) з Меляшкоў і беларускі вайсковец і дзеяч на эміграцыі Мікола Дзямідаў (1888-1967) з Ломжы і іншыя.

Прозвішчаў згадваецца ў краязнаўчым даведніку нямала. Да некаторых тэкстаў далучаны фотаздымкі. Але ж добра было б, каб партрэцікаў надрукавалася як мага найбольш, да кожнага вядомага чалавека Свіслацкай зямлі. Няма здымкаў і тых людзей, якія сёння жывуць, працуюць у іншых рэгіёнах Беларусі, хаця родам са Свіслаччыны. Гэта не даравальна, калі ў такім важным і неабходным людзям выданні няма партрэтаў паэтаў Анатоля і Васіля Дэбішаў з Брэста. Ці здымак журналіста і публіцыста Юрася Залоскі, які жыве ў Мінску, вучонага Валерыя Рамаsucceeded ўскага. Лёгка можна было б знайсці здымкі таго ж Янука Дарашкевіча, Кандрата Лейкі, Уладзіміра Міхнюка, Восіпа Кісяля, Юрыя Акудовіча і г.д.

Мае рацыю аўтар кнігі, калі ў прадмове да яе кажа, што „самым вялікім багаццем нашага краю ёсць людзі, якія тут нарадзіліся, вучыліся, працавалі, наведвалі яго. Кожны чалавек, які прыходзіць на гэты свет, мусіць пакінуць пасля сябе след”. Гэта так. Але яшчэ вельмі важна, каб пра такога чалавека ведалі людзі, шанавалі яго, памяталі пра яго. І гэта задача мясцовых краязнаўцаў, гісторыкаў, журналістаў. Яны павінны па драбнічках усё збіраць пра іх, занатоўваць, пісаць і выдаваць кнігі, ствараць старонкі ў інтэрнэце. Краязнавец са Свіслачы Мікалай Пакутнік гэтым на сваёй маленькай радзіме займаецца. І першыя вынікі ягонай працы — даведнік „Імёны і гістарычныя помнікі Свіслацкай зямлі”. І праца на гэтым не спынілася. Бо пра Свіслаччыну можна пісаць бясконца.

---

# http://cbdrr.org

Сённяшні беларускі тэатр — з'ява неадназначная. З аднаго боку мы бачым развіццё тэатральнага мастацтва, бо ствараюцца новыя тэатры, тэатральныя калектывы, праводзяцца разнастайныя фестывалі, рэжысёры і драматургі нейкім чынам прасоўваюць свае ідэі да гледача. Прычым праблемы, якія ўздымаюць аўтары, даволі злабадзённыя. У іх распавядаецца пра сучасныя адносіны паміж людзьмі, закранаюцца праблемы сутыкнення добрых і злых намераў, раскрываецца сутнасць добрага і дрэннага ў чалавечай істоце.

З іншага боку беларускі тэатр часоў праўлення Лукашэнкі падобны на хворага, у якога нешта з памяццю і арыентацыяй у часе і прасторы. Палітычныя тэмы, якія тычацца сённяшніх беларускіх рэалій — гэта табу, пра іх нічога не гавораць. І ў звычайнага гледача можа стварыцца ўражанне, што палітыка ў беларускім жыцці ўвогуле не існуе. Праўда, такое ўяўленне лёгка разбурае існаванне так званага Свабоднага тэатра пад кіраўніцтвам Міколы Халезіна, які ўжо добра вядомы ў замежжы, але якому фактычна забаронена выступаць на радзіме.

У рамках гэтага напаўадлюстравання рэчаіснасці і мусяць ствараць свае творы маладыя беларускія рэжысёры і драматургі. Зразумець, наколькі ім гэта ўдаецца, можа дапамагчы сайт Цэнтра беларускай драматургіі і рэжысуры, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://cbdrr.org.

„Асноўная мэта стварэння Цэнтра — развіццё і распаўсюджванне сучаснай беларускай драматургіі, — кажуць аўтары і ўладальнікі сайта, прэзентуючы свой цэнтр. — Калі ў Вас ёсць ідэі стварэння розных тэатральных праектаў, калі вы пішаце п'есы — прыносце і дасылайце. Мы абавязкова прачытаем іх і дапаможам знайсці сваё месца ў культурнай прасторы (разашлем па тэатрах, магчыма, надрукуем у зборніку, размесцім на сайце, арганізуем мастацкае чытанне на сцэне, уключым у піяр-дыск). Для драматургаў мы перыядычна праводзім майстар-класы, семінары, сцэнічныя чытанні, перформансы, лабараторыі, on-line праекты і многае іншае”.

Сайт выглядае даволі просценька — усяго толькі шэсць рубрык, некаторыя з якіх, відаць, не часта абнаўляюцца, і адзін фотаздымак на галоўнай старонцы.

На сайце не сустрэнеш вялікіх аздабленняў альбо нейкіх відэасюжэтаў, што даволі дзіўна, калі зважаць на тыя мэты, што ставіць даны цэнтр перад сабой. Невядома, колькі праз яго было пастаўлена п'ес, але на старонцы „Аўтары — п'есы” маецца толькі пяць аўтараў і шэсць п'ес.

Рубрыка „Навіны навокал” зусім не адпавядае сваёй назве. Там змешчаны ўсяго толькі два паведамленні, пры чым без указання якіх-небудзь дат. Падаецца, што ўладальнікам сайта не вельмі залежыць, каб цікаўныя да беларускай драматургіі і рэжысуры даведваліся пра тэатральныя навіны праз іх партал.

Закрадваецца думка, што і ў самім цэнтры справы ідуць не вельмі добра. Ускосна гэта пацвярджаецца і незадаволенасцю ад яго дзейнасці кіраўніцтва Міністэрства культуры Беларусі. Так, міністр культуры Павел Латушка, адказваючы на пытанні інфармацыйнага агенцтва БелаПАН леташнім вераснем заявіў, што ён не зусім задаволены дзейнасцю цэнтра, які мусіць быць „маторам, ініцыятарам новых, эксперыментальных пастановак”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

# Скарбы Беларусі

### Вязынка Купалы

„Янка Купала, песню зямля ўзгадавала, Янка Купала, выспела — песняю стала”. Словы гэтай песні на верш Уладзіміра Някляева найлепш адпавядаюць той мясціне, дзе нарадзіўся вялікі пясняр беларускага слова. Даўно адзначана, што некалькі першых пакаленняў беларускіх паэтаў выраслі і ўзгадаваліся ў маленькіх мясцовасцях. Зазвычай даследнікі поруч з гэтым з нейкай ледзь прыхаванай сарамлівасцю адзначаюць — што ж тут скажаш, вядома, сялянская нацыя, мова ад сахі ды сярпа. Але рэч тут, як мне падаецца, зусім у іншым — а менавіта ў ранейшым суладдзі чалавека з прыродай, у гарманічнасці слова і наваколля, жыватворных крыніцах малых радзім-вытокаў. Не будзем забывацца і пра тое, што пераважная большыня нашых пачынальнікаў — Чачот, Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Цётка, той жа Купала — людзі шляхецкага паходжання. Сучасныя творцы ж у большыні нараджаюцца ўжо ў горадзе, іх першыя вершы растуць на асфальце і ў бензінавым смогу. Дзе яны сёння могуць убачыць ранішні туман, золак над рэчкай, удыхнуць пах скошанай травы, захапіцца васількамі ў жыце?

У фальварак Вязынка сям'я Луцэвічаў прыехала ўвесну 1881 года, узяўшы яго ў арэнду ў Станіслава Замбржыцкага. Бацька будучага паэта Дамінік быў чалавекам працавітым і руплівым. Разам з жонкай, што мела рэдкае імя Бянігна, яны пасяліліся ў простай вясковай хаце. Сын Янка нарадзіўся праз год і пару месяцаў якраз у дні летняга сонцастаяння. Псеўданім быў вызначаны звыш купальскай ноччу, калі паэт з'явіўся на свет.

Наконт паходжання назвы Вязынка існуе некалькі версій. Нібыта раней мясцовая рака была досыць паўнаводнай і па ёй сплаўлялі лес, а перад тым вязалі плыты. Іншае сцвярджэнне даводзіць, што рака і далей мясціна сталі так звацца ад таго, што тут было і расце дагэтуль шмат вязаў. У наваколлі ўвогуле багата зеляніны і разнастайных дрэў.

Даехаць да Вязынкі найпрасцей прыгараднай мінскай чыгункай, не забыўшыся выйсці на аднайменнай станцыі. Калі ж вы наважыліся дабрацца ў родавае гняздо паэта на машыне, дарога будзе больш прыемнай. Гэта адзін з найстарэйшых у Беларусі шляхоў — Старавіленскі тракт, які доўгай стужкай вядзе на паўночны захад. Па дарозе варта спыніцца ля паселішча Мясота (радзіма філамата і прыродазнаўца Тамаша Зана). Вандруючы гадоў дзесяць таму з сябрамі-краязнаўцамі, мы так і зрабілі. Пры дарозе ўсталяваны два камяні з шыльдамі яшчэ савецкіх часоў, на адной з іх пералічаны прозвішчы больш двух дзесяткаў літаратараў і дзеячаў культуры, на другой — радкі з верша Купалы. Амшэлыя камяні на гэтым шляху — асаблівыя адзнакі. Ляжаць яны і „над ціхай Вязынкай-ракой” на сядзібе Луцэвічаў, дзе таксама невялікі помнік-бюст паэта. Першы музей паўстаў тут яшчэ ў пасляваенным 1948 годзе. А ў красавіку 1992 года, калі беларускае Адраджэнне дыхала на поўныя грудзі, урад да 90-х угодкаў з дня нараджэння песняра пастанавіў стварыць тут мемарыяльны запаведнік, які займае абшар ажно 21 гактар. Яго ядро складае адрэстаўраваная хата, у якой размешчана экспазіцыя.

Непадалёк адноўленай хаты-музея надзвычай маляўнічая сажалка, да якой схіліліся кустоўе вярбы і дрэвы, некаторыя састарэлыя ажно галінамі ў ваду. Баюся, што цяпер іх ужо прыбралі, бо ў нас надзвычай спяшаюць „парадкаваць” тэрыторыю. Але спадзяюся, што ў Вязынцы, якая дала Беларусі такі талент, дагэтуль жыве паэзія.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Тэкст і фота
Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Пісанкі маляваныя воскам

Пасля поўдня 6 красавіка г.г. у Самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) сабралася шмат дзяцей, моладзі і дарослых са Старога Ляўкова, Новага Ляўкова і Лешукоў. Прыйшлі яны маляваць поўныя яйкі і выдзімanкі. А малявалі іх хто фарбай, хто воскам і фарбай. Розных тэхнік фарбавання (не было толькі яек вараных у цыбульніку) вучылі Марыя Рэнт (яна самая вопытная ў гэтай галіне), Галена-Марыёля Рэнт, Вольга Максімюк, Зіна Рубчэўская і Альжбета Кунцэвіч.

— Хочам, каб традыцыя не загінула, — кажа Галена-Марыёля Рэнт, кіраўнічка старалякоўскай святліцы. — Найпрыгажэйшыя яйкі ўласнаручна аздобленыя, а не купленыя ў супермаркеце.

Упрыгожаныя яйкі ўдзельнікі майстар-класа ўзялі дадому, на свае велікодныя сталы.

Варта дадаць, што ў той жа дзень у святліцы дзеці і іх бацькі вучыліся ўпрыгожваць і вярбовыя галінкі (было гэта перад Вербніцай) ды пячы „бусловыя лапы". Кожны мог сабе выбраць любы занятак.

4 ☞ працяг

шмат і недзе я саграшыў няўдалым выбарам. Ішоў я, ішоў так лесам, дайшоў да перасячэння дарог, адна з якой мела паказальнік „Benkowa droga". Чаму ж няма на паказальніку назвы мясцовасці, куды тая дарога вядзе, толькі нейкі шыфр, дзіваваўся я. І так падаўся я ў тую Бэнкаву дарогу, аж выйшаў на ручаёк і пакрытую разнародным пакрыццём даўно пустуючую стадолу за ім. І так падумалася мне, што ў лясных лабірынтах немагчыма стаўляць паказальнікі, на якіх былі б назвы мясцовых мясцовасцей, бо тых мясцовасцей амаль ужо і няма, што тут дарэчы толькі нейкія ўмоўныя назвы кшталту Бэнкавай дарогі; мо нейкі Бэнэк крыў і перакрываў тую стадолу каля рэчкі Нетупы...

У вузенькай паласе травастою, якая ящчэ не зарасла лесам, убачыў я збудаванні невялікага прысёлка. Па ўсёй верагоднасці паказалася мне, што перад мною Новая Грыбоўшчына, а ручаёк за мною гэта згаданая мною рэчка Нетупа, якой крыніцы менавіта каля Новай Грыбоўшчыны. Падаўся я ў напрамку пабачаных збудаванняў і неўзабаве пазнаў, што іду знаёмай мне дарогай з Ляшчан у Грыбоўшчыну. Дайшоў я да Старой Грыбоўшчыны і павярнуў у гэтую вёсачку; мог ісці проста, у напрамку царкоўкі, збудаванай калісь Ільём Клімовічам, але рашыў, што там нічога цікавага не пабачу.

Аднак у Старой Грыбоўшчыне нейкая сіла, магчыма, што гэта была сіла прывычкі, пацягнула мяне ў вулачку, што вядзе ад вёскі ў напрамку царкоўкі. Хадзіў я па ёй ужо некалькі разоў і за кожным разам здавалася яна мне штораз больш зарослай. Гэтак жа і цяпер падала яна мне выгляд, што ўжо ёю ніхто са Старой Грыбоўшчыны ў царкоўку не ведваецца. А калісь жа, у міжваенны час, мясцовы селянін Ілья Клімовіч меў заснаваць у наваколлі Новы Іерусалім. Ад таго Новага Іерусаліма засталося амаль столькі ж, што і ад сапраўднага Іерусаліма пасля дэпартацыі з яго яўрэяў вавілонскім царом Навуходаносарам. І падумалася мне, што калі б так нейкім чынам Ілья Клімовіч мог паявіцца ў сённяшні час у сваёй Старой Грыбоўшчыне, ён мог бы так жа заплакаць, як у Навуходаносараў час заплакаў прарок Іерамія: „Наследие наше перешло къ чужимъ, домы наши — къ иноплеменнымъ. (...) Воду свою пьемъ за серебро, дрова наши достаются намъ за деньги. (...) Отцы наши грешили; ихъ уже нетъ, а мы несемъ наказание за беззаконие ихъ. (...) Старцы уже не сидятъ у воротъ; юноши не поютъ. Прекратилась радость сердца нашего; хороводы нашы прекратились въ сетование. Упалъ венецъ съ головы нашей; горе намъ что мы согрешили! Отъ сего-то изнываетъ сердце наше, отъ сего померкли глаза наши. Отъ того, что опустела гора Сионъ, лисицы ходятъ по ней". (Плач Іераміі, раздзел 5)

Выйшаў я да царкоўкі і перада мной паказалася карціна, якой я не спадзяваўся. *(Праця̆г будзе)*


## АБ'ЯВЫ

Запрашаем на сустрэчу з **Андрусём Такіндангам і канцэрт гурту РЭХА**

21.04.2012 18[00]

„Склеп з культурай"
Аб'яднанне АБ-БА,
Беласток, вул. Чэнстахоўская, 6а
(уступ свабодны).

ЗАПРАШАЕМ!


## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — сербскую пагаворку.

1. стан надвор'я з ураганам, ліўнем і маланкамі; можа быць у шклянцы вады = 13 _ 16 _ 3 _ 4 _;
2. „белы" архітэктурна-гістарычны аб'ект у Камянцы = 18 _ 14 _ 20 _ 21 _;
3. частка тушы жывёл, якой не спажываюць у пост = 9 _ 19 _ 11 _ 10 _;
4. месца, дзе пасецца жывёла = 17 _ 12 _ 15 _ 8 _ 7 _;
5. густое рэшата = 1_ 2 _ 5 _ 6 _.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | 15 | 16 | 17 |
| | | 18 | 19 | 20 | 21 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Шкілет, баравік, плюш, пуп, Іван, клець, чын, мічман, хлеў, хакей, папараць, фура, каюк.

Рашэнне: **Лепш правіць у пекле чым лакейнічаць у раю**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 22.04 — 28.04

**(22.03. — 20.04.)** Пойдзеш да канца, апярэдзіш сваіх сапернікаў. Не прывязвайся да статус-кво, бо ўсё можа змяніцца ў кожную хвіліну. Пазбягай канфліктных сітуацый, псіхічнай напругі. Усё самае важнае рабі пад канец тыдня.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш у дасканалай фізічнай форме. Быкі народжаныя перад 22.04. няхай пільнуюць сваё горла і гланды. Добры час на парадкі дома. У гармоніі з самім сабою вырашыш турбуючыя цябе пытанні. Быкі народжаныя 4-11.05. — вы цяпер непераможныя!

**(22.05. — 22.06.)** Да 24.04. магчымыя нечаканыя пертурбацыі. 23-27.04. людзі могуць абмануць цябе пустымі абяцаннямі. Шмат кантактаў, ды не ўсе будуць пазітыўнымі; хтосьці схоча цябе расстроіць, пакрыўдзіць, нарабіць табе шкоды. Праводзь як найбольш часу з блізкімі асобамі.

**(23.06. — 23.07.)** Не бойся рызыкі. Будзеш вельмі эмацыянальны. Твае эмоцыі будуць ліцца цераз край, і кожны раз іншы! У сярэдзіне тыдня будзеш ужо душой кампаніі. 26.04. будзе ў цябе крыху горш са здароўем і настроем, ды дасі рады! Старайся стрымліваць свае парывы, кантроль над якімі будзеш мець ужо ў выхадныя.

**(24.07. — 23.08.)** Да 24.04. рассакрэціш усё і ўсіх! З 27.04. (да 30.04.) ажыццявіш змены, думку, якія здаўна носіш у галаве. Можаш увесці ў жыццё ўдачаносны план. Паспехі ў кантактах дазволяць вырашыць шмат спраў на тваю карысць. Еж дыню!

**(24.08. — 23.09.)** 22-27.04. выкажашся спрытам, кемлівасцю, можаш шмат чаго дабіцца. Меркурый 23-27.04. можа папсаваць адносіны з дзецьмі і супрацоўнікамі. У сярэдзіне тыдня хтосьці схоча табе нарабіць брыды. Калі нічога не будзеш рабіць — нічога табе ў рукі само не пойдзе і на цябе могуць пасыпацца турботы.

**(24.09. — 23.10.)** Старайся прысвяціць тыдзень калі не самому сабе, дык сям'і і блізкім табе людзям, асабліва пажылым. Адпачнеш, напоўнішся радасцю і святлом. У рабочых справах праяўляй цярплівасць і вытрымку. Калі папсуецца настрой, пабудзь у адзіноце, пачытай, пагляздзі фільм.

**(24.10. — 22.11.)** Не рашайся на падарожжы 23-27.04., гэта кепскі час на негацыяцыі, пакупкі і нават на кампанейскія сустрэчы. Старайся не праяўляць рэзкасці ў адносінах. Фантастычная форма і невычэрпныя сілы з 27.04. (да 30.04.), незалежна ад твайго ўзросту і кандыцыі.

**(23.11. — 22.12.)** Да 23.04. ачарэуш кожнага. Ты ўвесь час — на кані! Твая ўпэўненасць і добрая энергетыка памогуць шмат каго перацягнуць на твой бок. І ўсе справы пойдуць як па масле. Толькі не будзь тыранам!

**(23.12. — 20.01.)** Расслабся — гэта тыдзень спакою і адпачынку. Не застанешся без спраў, ды ўсе яны пойдуць табе ў радасць. Будзеш мець задавальненне нават ад руціннага занятку. Не галадай.

**(21.01. — 19.02.)** Штосьці зварухнецца ў тваіх сардэчных справах. Дай больш часу свайму асабістаму жыццю. Толькі будзь асцярожны: 23-27.04. можаш паспрачацца з сябрамі; хоць мо будзеш ты вінаваты, цяжка будзе прызнацца да памылкі. Інвестуй у сябе самога.

**(20.02. — 21.03.)** Да 24.04. не пакінуць цябе моцная воля і рашучасць, знакаміта дагаворышся з усімі. Маеш шанц памножыць сваю маёмасць, пры дапамозе нядаўна пазнанай асобы. Ды не выкарыстоўвай нікога, бо справа можа правацца. Не перамайся, што чагосьці не ведаеш, толькі хутка падвучыся. Калі ты шмат страціў, атрымаеш новы шанц.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.iig.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

# Пілігрымка ў сучаснае і гісторыю Святой Зямлі (3)

У велікодныя дні жыццё хрысціянскіх вернікаў напаўняецца асаблівым сэнсам. Чытаючы Святое Пісьмо, удумваючыся ў словы, якія данеслі нам евангелісты, мы перажываем Хрыстовы пакуты і глыбіннае значэнне яго Уваскрэсення, у думках праходзім пакутніцкі крыжовы шлях Збаўцы і спрабуем уявіць як гэта адбывалася насамрэч. Паломніцтва ў Іерусалім дазваляе прайсці тымі мясцінамі і ў нейкай ступені дакрануцца да вялікай таямніцы гэтага свету.

## Крыжовым шляхам праз рынак

Крыжовая дарога праз стары квартал Іерусаліма, якая мае 14 станцый — месцаў, дзе спыняўся Ісус Хрыстос па дарозе да Галгофы, пралягае праз гандлёвыя рады. Вуліца Via Dolorosa (па-беларуску Шлях Смутку альбо Шлях Скрухі) ідзе ўгару, у некаторых месцах нібы губляецца, аднаму тут нават можна заблукаць. Паўсюдна стаіць шум, гоман і пах гатаванай ежы. Кажуць, што прыблізна так было і дзве тысячы гадоў таму. Скрозь можна ўбачыць разнастайныя тавары і сувеніры — ад традыцыйных тут торбаў, стракатага адзення, паломніцкіх крыжоў з аліўкавага дрэва да сапраўднага антыкварыяту і кашулек з карыкатурнымі партрэтамі прэзідэнтаў Януковіча і Пуціна. 14 станцый адзначаны на сценах рымскімі лічбамі і разнастайнымі таблічкамі-знакамі. Вось месца, дзе Ісус сустрэў сваю маці Марыю, а вось — дзе Сымон узяў ягоны крыж і панёс далей. А вось тут міласэрная дзяўчына Вераніка абцерла пот з ілба Хрыста.




Паломнікі з розных краін свету нясуць па гэтым шляху свае сімвалічныя крыжы. На Via Dolorosa дзевяць з „крыжовых прыпынкаў", астатнія пяць ужо на тэрыторыі Храма Труны Гасподняй. Па шляху праходзім праз храмы розных канфесій — так званую Царкву бічавання, Капэлу асуджэння, рымска-каталіцкую базіліку і кляштар, што пры ёй, копцкі патрыярхат з царквой св. Алены, эфіопскі манастыр, лютаранскую Царкву Збаўцы. Па завуголлі і ў глыбіні дворыкаў можна заўважыць незвычайна для нас убраных манахаў і святароў.

З гісторыі вядома, што стары Іерусалім быў амаль цалкам разбураны яшчэ ў І стагоддзі пасля іудзейскай вайны, апісанай Іосіфам Флавіем. Сучасны крыжовы маршрут упершыню апісалі ў XIII стагоддзі дамініканцы, а пазней „задакументавалі" манахі-францішканцы. З таго часу па гэтай дарозе на гару Галгофу прайшлі мільёны пілігрымаў з усіх канцоў свету.

## Да таямніцы Дабрадайнага агню

Храм Труны Гасподняй, альбо як яго яшчэ называюць Храм Уваскрэсення — гэта асаблівы вялізны гістарычна-архітэктурны комплекс і галоўная святыня ўсяго хрысціянства. Менавіта тут быў укрыжаваны, пахаваны, а пасля ўваскрос сын Божы і найвялікшы чалавек у гісторыі нашай зямлі. Першая царква была закладзена яшчэ царыцай Аленай, пазней абвешчанай святой. Сёння гэты вялікі ў кожным сэнсе храм падзелены паміж ажно шасцю рознымі Цэрквамі. Асобныя яго часткі належаць грэцка-праваслаўнай, армянскай, копцкай, каталіцкай, сірыйскай і эфіопскай канфесіям, у кожнай з іх свае прыдзелы і свае гадзіны для набажэнстваў. Хто якой часткай валодае, тут не апісваю, мяркую, што для нас, звычайных вернікаў, гэта не так істотна. Цягам многіх стагоддзяў паміж рознымі плынямі ўзнікалі розныя канфлікты. Каб іх унікнуць, ці прынамсі зменшыць, яшчэ з далёкага 1192 года ключы ад храма захоўваюцца ў адной з мясцовых арабска-мусульманскай сям'і. Ролю ж ключнікаў, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне ад бацькі да сына, выконвае іншая ісламская сям'я па прозвішчы Нусэйбе. Яе прадстаўніка пашчасціла пабачыць і нашай паломніцкай групе.



Храм Труны Гасподняй — адзіная святыня ў Іерусаліме, дзе ўтвараюцца чэргі. Найбольш вялікая з іх да той часткі ўнутранай царквы, дзе зыходзіць Дабрадайны агонь. Называецца гэтая частка Кувуклія. Каб пакланіцца і ўкленчыць на месцы пахавання Хрыста, давялося адстаяць у шчыльнай чарзе каля гадзіны. У Вялікую Суботу на праваслаўны Вялікдзень сюды заходзіць грэцкі патрыярх і моліцца пра сыход цудадзейнага агню. Гэты агонь у некаторых моўных традыцыях называецца яшчэ Дабрадайным святлом, што больш адпавядае яго сутнасці. Зышоўшы агонь патрыярх перадае праз адмысловае акенца, цудадзейнае полымя, якое не апальвае, хутка распаўсюджваецца па ўсім вялікім храме-ратондзе. Штогод гэта трансліюецца па тэлевізары, але пабываць там асабіста, хоць і ў іншы час — зусім іншае адчуванне.

Пасля выхаду з Кувукліі кожны паломнік можа запаліць пучок свечак, які складаецца з 33 свечак — па колькасці зямных гадоў Ісуса Хрыста. Такім чынам адбываецца самастойнае асвячэнне свечак, якое не патрабуе ўдзелу святароў. Гэта лічыцца абсалютна кананічным. А ў іншым месцы — на Камяні мірапамазання — таксама самастойна асвячаюцца іншыя рэчы: крыжыкі, абразкі, ружанцы, пацеркі, складаюцца малітвы і просьбы. На галоўным увамходзевыхадзе з Храма Уваскрэсення Хрыстова можна ўбачыць мармуровую калону з расколінай. З ёй звязана тое самае паданне, калі іншаверцы ўстанавілі плату для хрысціян за ўваход у храм і найбольш бедныя не маглі ў яго трапіць. Тады Гасподзь выявіў свае асаблівыя ласку і знак і абдарыў цудадзейным агнём найперш тых, хто чакаў Святла звонку. Тады мясцовыя людзі сталі гучна крычаць, услаўляючы Бога. Пасля гэтага і паўстала традыцыя некаторымі канфесіямі гучна вітаць з'яўленне Агню ўжо і ў самым храме. Ёсць і іншыя, больш разгорнутыя, тлумачэнні гэтай гісторыі, якая трактуецца па-рознаму ў розных веравызнаннях, але з адной сутнасцю. Зараз у расколіну, якая сягае больш метра ў даўжыню і некалькі сантыметраў ушыркі і ўглыб, некаторыя ўкладаюць цыдулкі з просьбамі да Усявышняга.


Аўтар ля калоны з расколінай

## На парозе Суднай брамы

Руская праваслаўная царква валодае на Святой Зямлі цэлым шэрагам манастыроў і адметных асяродкаў. Практычна ўсе яны былі закладзены яшчэ архімандрытам Антанінам Капусціным. Пасля ней усе хрысціянскія канфесіі імкнуліся набываць у Іерусаліме і яго ваколіцах зямлю. Рабілася гэта па ўсходняй традыцыі пераважна праз „бакшыш", ці па-нашаму — хабар. Слоўца гэтае папулярнае ў ізраільскіх арабаў і сёння, прыкладам, пасля абеду бакшыш ад турыстаў (па-еўрапейску — чаявыя) патрабуюць афіцыянты ў абедзенных месцах.

Раскол у Рускай праваслаўнай царкве на Белую і Чырвоную адбыўся пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе. Доўгі час яны існавалі як абсалютна самастойныя і амаль не кантактавалі. І толькі ў наш час адбылося значнае збліжэнне. Але ў назвах асяродкаў захоўваюцца ранейшыя азначэнні.

У самым цэнтры старога Іерусаліма ў месцы, куды можна трапіць праз Яфскую браму, на адлегласці ўсяго каля ста метраў ад Храма Уваскрэсення знаходзіцца вельмі цікавае так званае Аляксандраўскае падвор'е з царквой Аляксандра Неўскага. Гэта незвычайная царква, збудаваная на месцы археалагічных раскопак XIX стагоддзя. Надзел зямлі быў куплены некалі ў двух эфіопскіх святароў, тады тут хацелі спярша пабудаваць расійскае консульства. А ў даўнія крыжацкія часы на гэтым месцы быў каталіцкі храм св. Марыі. Раскопкі спярша вялі французскія археолагі, якія выявілі рэшткі старажытнарымскай забудовы і шматлікія бронзавыя каштоўнасці. Пасля чаго за справу ўзяўся кіраўнік рускай духоўнай місіі Капусцін, які сам быў добрым навукоўцам. Даследзіны штодра фінансаваліся царскім дваром.

Зараз у сярэдзіне храма можна пабачыць даўнія калоны і фрагменты брамаў. Нагадвае гэта шматлікія рымскія руіны, якія можна пабачыць у Вечным горадзе. У выніку тых даўніх раскопак былі знойдзены так званыя Судныя вароты, праз якія праходзіў Хрыстос. Ля Суднай брамы старажытныя рымляне паўтаралі прыгавор, які ўжо не мог быць абскарджаны. Было адкапанае і тое самае біблейскае „іголкавае вушка", пра якое пішуць евангелісты Мацвей і Лука, цытуючы словы Хрыста: „Лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым багацею ўвайсці ў Валадарства Божае". Насамрэч гэтае „вушка іголкі" — частка брамы, выглядае яна як байніца, праз якую чалавек можа пралезці з цяжкасцю.

Асобнай часткай Аляксандраўскага падвор'я з'яўляецца каплічка колішніх расійскіх імператараў Раманавых. Па сутнасці гэта таксама музейны пакой, які багата абсталяваны паводле тых часоў. Цікава, што з сярэдзіны XIX стагоддзя ўвесь гэты комплекс фактычна не рэстаўраваўся. І толькі зусім нядаўна быў праведзены рамонт, пасля чаго адбылося асвячэнне з удзелам кіраўніцтва двюох плыняў Рускай Праваслаўнай Царквы. Цікава, што сам храм доўга аздаблялі вялікія іконы, створаныя выдатным майстрам жывапісу Мікалаем Кошалевым, якія адлюстроўвалі па парадку ўсе фрагменты Крыжовага шляху Збаўцы ад Гефсіманскага саду да Галгофы і Сашэсця ў пекла. Зараз іх няма, нібыта яны на рэстаўрацыі ў Амерыцы.

Прастол гэтай царквы знаходзіцца на месцы прастола аднаго са старажытнейшых хрысціянскіх храмаў. Яшчэ адной археалагічнай і духоўнай каштоўнасцю з'яўляецца парог Судовай брамы, які ўзяты пад шкло і абнесены чыгуннымі кратамі, за якімі ўсталявана Укрыжаванне на каменнай глыбе з Галгофы, што было куплена ў грэкаў.

ISSN 0546-1960